Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ — Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 8 (4757) 21 лютага 2014 г.

## Пункціра́м

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў трохразовую алімпійскую чэмпіёнку Дар'ю Домрачаву з заваяваннем залатога медаля ў мас-старце на Алімпіядзе ў Сочы і прысвоіў спартсменцы званне Героя Беларусі. «Заваяваўшы званне трохразовай алімпійскай чэмпіёнкі, ты здзейсніла подзвіг, — гаворыцца ў віншаванні. — Гісторыя сучаснасці не ведае такіх выпадкаў. У нашай Айчыне подзвігі шануюць асабліва».

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў члена нацыянальнай каманды Беларусі па фрыстайле Антона Кушніра з заваяваннем залатога медаля на Алімпійскіх гульнях у Сочы. «Алімпійскія гульні ў Сочы запомняцца сапраўдным трыумфам беларускай школы фрыстайла! Дзякуй за гэта ўсяму калектыву нацыянальнай каманды!» — адзначаецца ў віншавальнай тэлеграме.

✔ Прэзідэнт Беларусі прывітаў удзельнікаў III Міжнароднага фестывалю «Уладзімір Співакоў запрашае». «Гэта цудоўнае свята мастацтва выконвае важную місію захавання традыцый і ідэалаў класічнай музыкі, умацавання дружбы і згоды паміж народамі», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. Кіраўнік дзяржавы выказаў упэўненасць, што фестываль, афішу якога ўпрыгожваюць імёны вядомых артыстаў з розных краін, парадуе выдатнымі канцэртамі і дапамога адчуць гасцінnасць жыхароў беларускай зямлі.

✔ У сувязі са смерцю народнага мастака Беларусі Гаўрыла Вашчанкі Прэзідэнт Беларусі выказаў спачуванні родным і калегам мастака. «Адна з найвялікшых постацей у беларускім жывапісе XX стагоддзя, Гаўрыіл Вашчанка пакінуў яркі след у айчыннай культуры. Напісаныя ім палотны, напоўненыя глыбокім філасофскім зместам і пранікнёна-лірычным поглядам на свет, сталі сапраўдным мастацкім летапісам Беларусі», — гаворыцца ў спачуванні. Аляксандр Лукашэнка выказаў упэўненасць, што для новых пакаленняў беларускіх мастакоў жыццё і асоба Майстра будуць прыкладам самааддданага служэння любімай справе.

✔ Беларускія грамадскія аб'яднанні выступілі з ініцыятывай зацвердзіць у нашай краіне 29 чэрвеня Днём партызан і падпольшчыкаў. Грамадскія слуханні па гэтай тэме, у якіх бралі ўдзел вучоныя, эксперты, прадстаўнікі грамадскасці, прайшлі ў Доме Масквы. Ініцыятыву праявіла бранская абласная грамадская арганізацыя «Беларускае зямляцтва на Браншчыне», якая звярнулася да айчынных грамадскіх арганізацый. Падрыхтаваны зварот у Нацыянальны сход Беларусі з просьбай правесці адпаведныя парламенцкія слуханні.

✔ На працягу месяца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі будзе працаваць фотавыстаўка «Вострай мужнасці і смутку», прысвечаная 25-годдзю вываду савецкіх войск з Афганістана. Унікальны фоталетапіс адлюстроўвае храналогію афганскага руху, а таксама гісторыю стварэння Вострава мужнасці і смутку, які размешчаны каля Траецкага прадмесця ў Мінску.

✔ 24 лютага ў памяшканні ГА «Дыялог Еўразія» (вул. Е. Полацкай, 1) адбудзецца літаратурна-музычнае свята ў беларуска-турэцкім літаратурным клубе «Масты дружбы». Пачатак а 17-й гадзіне.

✔ Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае 27 лютага ў паэтычны клуб «Парнас» на творчую сустрэчу з пісьменнікам Юрасём Нератком, якая пройдзе ў мінскай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 18-й гадзіне.

**Падрыхтавала**
**Іна ЛАЗАРАВА**



# Пагля́дзі ў акно Купалы

*Фота Кастуся Дробава*



**Трэці шэраг новай экспазіцыі «Шляхі» Дзяржаўнага літаратурнага музея імя Янкі Купалы адкрыты. Ён прысвечаны апошнім гадам жыцця і творчасці паэта, ад пачатку 1930-х па 1942 год. Канцэпцыю «Шляхоў» распрацоўваў і ўвасабляў у жыццё мастак Аляксандр Давідовіч.**

Галіна Воранава, вядучы навуковы супрацоўнік аддзела навуковай экспазіцыйнай выставачнай работы, правяла для карэспандэнта «ЛіМа» самую першую экскурсію па новай экспазіцыі.

— 1930 год сумна вядомы працэсам Саюза вызвалення Беларусі, арганізацыі, якой насамрэч ніколі не існавала, Задачай было не толькі выкрыць арганізацыю, але і дабіцца, як напісана ў сакрэтных пратаколах, ад мясцовых інтэлігентаў-нацыяналаў асуджэння нацдэмаўскай палітыкі. Дабіваліся, канечне, найперш ад вядомых вучоных і пісьменнікаў. Для Купалы гэта было вялікім выпрабаваннем. У экспазіцыі можна ўбачыць адзін з нешматлікіх яго прыжыццёвых партрэтаў, які стварыў скульптар Адам Бразер. Магчыма, гэта быў накід да скульптуры. Мастак выхапіў вострыя рысы твару чалавека, які адчувае боль, пакутуе. Для назвы гэтай часткі экспазіцыі мы ўзялі радкі «Паэта напісаў… а цэнзар пагладзіў», з купалавага верша 1919 года. Ён прысвяціў яго «ўсім маім былым, маючым быць і будучым цэнзарам». Купала піша, што ад веку паэты пісалі, а цэнзары рэзалі, і раптам з'яўляецца ласкавы цэнзар, які вырашыў дапамагчы небараку-паэту ў яго творчай справе і пачаў вершы не рэзаць, а гладзіць: мяняў некалькі слоў, пасля чаго верш цалкам набываў супрацьлеглы сэнс. Цэнзарскае «пагладжванне» прывяло да таго, што паэт трагічна пайшоў з жыцця. Так Купала фактычна прадказаў свой лёс і лёс свайго пакалення.

Там жа выстаўлена кніга «Адцвітанне», якая выйшла акурат у 1930 годзе. Існуе легенда, што большую частку тыражу распусцілі на аркушы і раздалі як упаковачную паперу ў гандлёвую сетку. Уявіце сабе селядзец, завёрнуты ў вершы Купалы.

— У той час многія сябры Купалы ўжо сядзяць на Валадарцы, а яго самога запрашаюць «на перамовы». У экспазіцыі прадстаўлена частка пратакола допыту ад 15 лістапада 1930 года. Прычым старонкі старанна падрэзаныя нажнічкамі, — звяртае ўвагу спадарыня Галіна. — Купала неаднаразова заяўляе, што ні ў якіх контррэвалюцыйных арганізацыях не ўдзельнічаў. Пратаколы выразна падзеленыя на дзве часткі, і застаецца адчуванне, што паміж імі былі яшчэ нейкія дакументы. Магчыма, Купалу пазнаёмілі з пратаколамі допытаў яго сяброў і знаёмых, а некаторыя з іх давалі паказанні, што Купала быў не толькі ўдзельнікам міфічнага саюза, але і яго кіраўніком. Ад яго самога маглі вымагаць падобных даносаў. Але ў пратаколе няма прамых абвінавачванняў на адрас знаёмых Купалы. Далёка не кожны знайшоў у сабе на гэта сілы — не агаварыць людзей. І 20 лістапада Янка Купала не вытрымлівае: у той час як Колас падпісвае самаабвінавачванне, Купала спрабуе скончыць жыццё самагубствам. Уратавалі, у цяжкім стане ён апынуўся ў шпіталі. Але паэта ўсё адно не пакінулі ў спакоі, і яго «Адкрыты ліст» з'яўляецца ў газеце «Звязда» 14 снежня 1930 года. Многія сумняюцца, што аўтар ліста — Купала. Старонка з «Адкрытым лістом» экспануецца ўпершыню: раней выстаўляліся толькі перадрукі.

Заканчэнне чытайце на стар. 2 ▶

# Паглядзі ў акно Купалы



Фрагмент экспазіцыі.

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Таксама звярніце ўвагу на «Даведку аб маючыхся кампраметуючых матэрыялах на членаў Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР. 1937 год. Для Панамарэнка». Першы нумар у гэтай даведцы — Луцэвіч Іван Дамінікавіч, які «пачаў сваю нацыянал-буржуазную дзейнасць» у 1908 годзе з працы ў «Нашай Ніве», а яшчэ, аказваецца, «Купала является одним из инициаторов насаждения кулацких хуторов в Беларуси». І не абмініце шарж Галіны Дакальскай, які быў змешчаны ў пераднавагоднім нумары «ЛіМа» за 1935 год пад назвай «Дарога на Парнас»: нават там Купала і Колас разам, першыя ў чарзе, абняўшыся. А яшчэ — крытык Бэндэ з дубінкай. Праўда, у хвасце калоны.

Асобна размешчаны стэнд, прысвечаны творчасці Купалы ў 1930-я гады. Найбольшую цікавасць выклікае рукапіс верша «Сыходзіш, вёска, з яснай явы». У арыгінале мы бачым: «як сон і смутны, і жаданы, сыходзіш, вёска» і г. д. Пасля таго, як цэнзар «прыгладзіў» верш, стала «як сон самотны, нежаданы, сыходзіш, вёска, з яснай явы» — і замест элегічнага роздуму атрымаўся гімн калгаснай Беларусі. Што цікава — і незразумела — ён дасюль друкуецца ў выпраўленым выглядзе.

Як і чакалася, у экспазіцыі будзе шмат фота: са з'езда пісьменнікаў у Маскве ў 1934 годзе, вельмі многа — з Якубам Коласам, з паездак у Чэхаславакію і Грузію. На адным са здымкаў Купалу можна ўбачыць з яго доктаркай, Эліко Метыхелі, якой паэт, дарэчы, прысвяціў верш. Потым наведнікі пераходзяць «у Ляўкі». Вялізны макет ляўкоўскага лецішча, створаны Янкам Раманоўскім (пляменнікам Янкі Купалы) і Фёдарам Анісовічам, абмінуць немагчыма. У ім можна разгледзець мэблю, дыванкі і нават газеты на стале Купалы. Існуе паданне, што калі адзначалася 30-годдзе яго творчай дзейнасці, прадстаўнікі тагачаснага ўрада прынеслі яму карту Беларусі і, паколькі вырашылі пабудаваць яму лецішча, прапанавалі на гэтай карце пазначыць любое месца. Паэт выбраў Ляўкі. Яму не раз задавалі пытанне, чаму лецішча апынулася за 300 кіламетраў ад Мінска. Ён адказваў, што Дняпро, на якім стаіць дом, лучыць яго з сябрамі. Дарэчы, аўтарам праекта дома быў сам Купала.

— «Шляхі вайны» распавядаюць пра перадваенныя паездкі Купалы ў Вільню, Рыгу, Сігулду, — працягваецца экскурсія. — Падчас апошняй Купалу і яго спадарожнікаў — Лынькова і Броўку — заспела вайна. 21 чэрвеня была святочная вечарына ў гонар беларускіх гасцей — і ўжо раніцай іх абудзілі выбухі і стрэлы. Ім пашанцавала патрапіць на апошні цягнік Коўна — Мінск. Вось першы артыкул Янкі Купалы, прысвечаны падзеям вайны, — «Поднялась Беларусь» за ліпень 1941 года ў «Известиях». Ёсць вітрына, якая ілюструе пераезд Купалы ў Чабаксары. Ехаў ён на сваім «Шэўрале» (прадстаўлены тэхпашпарт і гадзіннік з аўтамабіля). Наступная частка прысвечана Пячышчам, дзе Купала правёў большую частку эвакуацыі. Сёння там існуе мемарыяльны пакой паэта. Можна прачытаць рукапісы вершаў ваенных часоў: «Паўстаў народ мой беларускі» — адзін з першых, «Грабежнік» (1942), «Лютуе Гітлер ашалелы» — з апошніх вершаў, і самы знакаміты — «Беларускім партызанам», змешчаны таксама на лістоўцы, якія скідвалі з аэраплана. Цікавы ліст, які Купала даслаў у рэдакцыю «Савецкай Беларусі», у прыватнасці, прыпіска да яго: «Чаму ніхто з вас ні чорта мне не напіша?» Аднак сам ён не надта любіў пісаць лісты.

У чэрвені 1942 года Купалу выклікаюць у Маскву. Ён спыняецца ў гасцініцы «Масква», у нумары 414. Мы можам прачытаць фрагмент яго апошняга ліста, ад 19.06.42, адрасаванага жонцы, «дарагой Уладзі». Ён пісаў, што дабраўся добра, але мусіць сканчыць ліст, бо чалавек, які яго перадасць, падганяе — спяшаецца на цягнік. «Цалую. Твой Янка». Пра тое, што ён канчаткова пасяліўся ў нумары 414, Купала паведаміць тэлеграмай. Уладзіслава Францаўна напісала адказ 27 чэрвеня, але Купала не паспеў яго атрымаць. Экспануецца адзіны вядомы дакумент, які перадае афіцыйную версію падзей: няшчасны выпадак. Пры гэтым настойліва паўтараецца, я б нават сказала — убіваецца ў галаву, што Купала быў у нецвярозым стане, а пад ложкам у яго знайшлі пустыя бутэлькі. Максім Танк, які сустракаўся з Купалам у Маскве ў той час, не заўважыў, каб апошні быў засмучаны ці пра нешта перажываў. Пазней, ужо ў 1990-я, Танк казаў, што смерць Купалы застаецца для яго загадкай. Ён не мог, напрыклад, зразумець, нашто ўвогуле Купала пайшоў на тую лесвіцу, калі ўсе ездзілі ліфтам (паэт выйшаў з пакоя Лынькова, які знаходзіўся на дзясятым паверсе). Нагадаем таксама, што Купалу было ўжо шэсцьдзесят гадоў. Папаліць? Але ўсе палілі ў пакоях, ніколі не саромеючыся, гэтак было прынята. Можна меркаваць, што яго выклікалі на сустрэчу, тым больш што да таго Купалу тэлефанавала жанчына, якая прадстаўлялася карэспандэнтам маскоўскай газеты і настойвала на інтэрв'ю.

Экспанаты, звязаныя з апошнімі гадзінамі жыцця Купалы, сапраўды ўнікальныя: гэта фрагменты сапраўднага абсталявання гасцінічнага пакоя. Уваходныя дзверы, на якіх — той самы нумар, міжпакаёвыя дзверы, акно і фрагменты лесвічнага пралёта. Перавезлі таксама мармуровы пастамент, на якім на Ваганькаўскіх могілках захоўвалася да 1962 года прах паэта.

Заключная частка экспазіцыі прысвечана сведчанням «ушанавання памяці песняра». То бок, уласна музею Купалы, Уладзіславе Францаўне, якая літаральна стварыла гэты музей (першая выстаўка — ужо ў верасні 1945 года) і была першым яго дырэктарам; у гасцёўні экспануюцца асабістыя рэчы паэта, а побач — кабінет, дзе Купала будзе чытаць свае вершы. Прыходзьце, убачыце!

**Анастасія ГРЫШЧУК**

## Прынятыя ў СПБ



**Уладзімір Віктаравіч КРАЙНЕЎ**

***Секцыя прозы***

Нарадзіўся 4 лютага 1947 года ў сяле Сямёнаўшчына Валдайскага раёна Наўгародскай вобласці. Скончыў Іркуцкі інстытут чыгуначнага транспарту і факультэт журналістыкі Бурацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Служыў у Арміі. Працаваў у газеце «Бурятия» і на кіруючых пасадах. Пенсіянер. Жыве ў г. Віцебску.

Піша аповесці і раманы: «Байкальский адмирал» (2001), «Сокровище негибнущее» (2009), «Горячие точки холодной войны» (2010), «Мать-Героиня» (2011) і інш. Яго апавяданні і эсэ друкуюцца ў газетах «Восточная Сибирь», «Труд», «Гудок», «Бурятия».

Член Саюза пісьменнікаў Расіі.



**Уладзімір Яфімавіч ЦАНУНІН**

***Секцыя паэзіі***

Нарадзіўся 1 ліпеня 1954 года ў вёсцы Батвінаўка Крычаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў Магілёўскі дзяржаўны педагагічны інстытут, гістарычны факультэт. Займаў розныя пасады ў сістэме адукацыі. Працуе настаўнікам у філіяле Ільянскай сярэдняй школы імя А. А. Грымаця.

Друкаваўся ў газеце «Літаратура і мастацтва», часопісе «Вожык» . У 2011 годзе выйшлі дзве яго кнігі: зборнік гістарычных вершаў «У струменях часу» і зборнік вершаў на чарнобыльскую тэматыку «Хто ж адкажа».



**Іван Паўлавіч ЯРАШЭВІЧ**

***Секцыя публіцыстыкі***

Нарадзіўся 10 студзеня 1945 года ў вёсцы Хатынічы Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Займаў розныя пасады ў сістэме адукацыі. Цяпер працуе загадчыкам музея Смілавіцкага дзяржаўнага аграрнага каледжа.

Друкуецца ў газеце «Літаратура і мастацтва», у часопісе «Нёман», у мясцовай газеце «Раённы веснік». Аўтар кнігі «Чэрвеньшчына: гісторыя ў тапонімах (2009).

# Паміж Мінскам і Беластокам

**Выстаўка ўнікальнай калекцыі паштовак XIX — XX стагоддзяў з выявамі праваслаўных храмаў Беларусі і Польшчы пабачыла свет дзякуючы калекцыянерам Аляксандру Сосне і Уладзіміру Ліхадзедаву падчас XXI Міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу ў межах праекта «У пошуках страчанага».**

Аляксандр Сосна, які прывёз у Мінск сваю калекцыю паштовак, — вядомы польскі філакартыст, віцэ-мэр Беластока і спецыяліст па вывучэнні праваслаўя на тэрыторыі сучаснай Польшчы. Ён збірае паштоўкі не дзеля выгады ці кар'еры, а для душы, як доказ таго, што праваслаўныя ў Польшчы былі і ёсць. Гэтая каштоўнасць не вымяраецца грашыма і не выстаўляецца на продаж.

— Можна збіраць рэчы ці банкаўскія купюры, я ж стаў калекцыяніраваць паштоўкі з выявамі храмаў. Знайшоў адну, другую і захапіўся. Цяпер гэта больш як хобі. Дзеля адной паштоўкі я магу праехаць тысячу кіламетраў начным цягніком — напрыклад, у Гамбург. Да чатырох раніцы паблукаць па мясцовым кірмашы, знайсці тое, што шукаў, а потым вярнуцца дадому, у Беласток, каб раніцай пайсці на працу. І буду шчаслівым, — прызнаўся віцэ-мэр Беластока.

Некаторыя калекцыянеры нікому не паказваюць сабраны ўласнымі рукамі «скарб», каб перадаць нашчадкам ці, у рэшце рэшт, добра прадаць. Аляксандр Сосна з гэтым не згодны і вельмі рады, калі жыхары розных гарадоў і нават краін могуць убачыць яго паштоўкі.

— Мая калекцыя павінна жыць для людзей. Усе паштоўкі размешчаны на маім сайце і кожны можа выкарыстоўваць іх для сваёй кнігі ці выстаўкі абсалютна бясплатна. Адзіная ўмова: выданне, дзе выкарыстана паштоўка, я хачу атрымаць на памяць, — распавёў калекцыянер.

Паводле Аляксандра Сосны, у Польшчы да 1918 года было каля 1500 праваслаўных храмаў, многія з якіх знаходзіліся ў нетыповых будынках — школах, казармах, вязніцах. Паступова іх руйнавалі, але памяць засталася на фотаздымках. Захавалася ў сучаснай Польшчы амаль чацвёртая частка цэркваў, крыху больш як 300.



Фота Кастуся Дробава

Аляксандр Сосна распавядае пра сваю калекцыю ўладыку Стэфану.

— Ведаю, што не здолею знайсці ўсе паштоўкі, але буду збіраць іх да канца жыцця. У кожную вандроўку па паштоўкі еду з радасцю, бо магу штосьці прывезці і паказаць. У Мінск таксама дабіраўся доўга, але ўжо нават не адчуваю стомленасці, — адзначыў Аляксандр Сосна.

Удзел у сустрэчы браў уладыка Стэфан, даўні прыхільнік асветніцкіх і духоўных праектаў, якія рэалізуюцца ў беларускай перыёдыцы. Праваслаўны святар цікавіцца гісторыяй і прапаведуе людзям беражлівае стаўленне да яе.

— Кожнаму з нас цікава, адкуль мы пайшлі, з якога роду, якія храмы існавалі ў роднай ваколіцы. Распытацца пра гэта ў сваіх дзядоў і бабуль можна, але мінуўшчыну хочацца ўбачыць. Сёння гэта магчыма дзякуючы добрасумленнай працы Уладзіміра Ліхадзедава і Аляксандра Сосны. Паштоўкі, фотаздымкі яскрава адлюстроўваюць духоўнасць народа, — выказаў меркаванне ўладыка Стэфан.

Аляксандр Сосна ў знак павагі і ўдзячнасці падараваў святару арыгінальную паштоўку з выявай Свята-Аляксандра-Неўскага сабора ў Варшаве, які, на жаль, быў разбураны ў 1924 годзе. Частка мазаік і фрэсак з храма захавалася. Знаходзяцца яны ў баранавіцкім Свята-Пакроўскім саборы.

Падчас сустрэчы можна было пазнаёміцца з кнігай Уладзіміра Ліхадзедава «Святы Аляксандр Неўскі». У выданні прадстаўлены фатаграфіі і паштоўкі з выявамі праваслаўных сабораў і цэркваў, збудаваных у імя слыннага князя.

Чаму ж паштоўкі, якім больш як 100 гадоў, так добра захаваліся? «У даўнія часы фатаграфічная папера была вельмі якаснай, бо для яе вырабу не шкадавалі срэбра. Таму і выглядаюць паштоўкі амаль ідэальна, не жоўкнуць і не згортваюцца», — заўважыў Уладзімір Ліхадзедаў.

У чым сакрэт поспеху польскага калекцыянера як чалавека, які займаецца любімай справай? Запомніліся яго словы: «Усё трэба пачынаць з благаслаўлення Божага…»

**Марыя ВОЙЦІК**

# На рандэву да дзядзькі Якуба

Ведаю нямала людзей, якія лічаць, што ў музеі вельмі сумна. Але ніколі з імі не пагаджуся! Пабываць у музеі — значыць не толькі атрымаць новыя веды, але і натхніцца, насыціцца творчай энергіяй. Адзначаць там свята — яшчэ цікавей. Праграма вечарыны, прысвечанай Дню святога Валянціна, у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа была настолькі насычанай, што ўдзельнікам нават не было калі прысесці. А затрымаліся мы да позняга вечара, нават не заўважыўшы, як хутка праімчаў час.

На ўваходзе нас сустракалі супрацоўнікі музея. Было адчуванне, што трапілі да кагосьці ў госці. Давядаўшыся, што мы з хлопцам закаханая пара, падаравалі валянцінкі і шыкоўную паштоўку ад музея з выявай Якуба Коласа, нашым фотаздымкам на адваротным баку і шчырымі пажаданнямі ад установы. Дарэчы, без валянцінак і паштовак не застаўся ніхто. Валянцінкі віселі на дрэўцы каля ўвахода і браў іх кожны жадаючы, а цікавыя паштоўкі на любы густ можна было набыць на хэнд-мэйд-кірмашы. Але толькі паспелі набыць паштоўку, як паклікалі… танчыць. Можа, у нас і не вельмі атрымалася, але было весела.



*Фота Наталі Купрэвіч*

*Каб спраўдзілася жаданае!*

Не паспелі адпачыць, як распачалася наступная забава. На выцягнутых з меха паперках было напісана, які падарунак трэба зрабіць сваім каханым, і ўсе пайшлі працаваць: напрыклад, варыць мыла! На здзіўленне, атрымалася няўрэнна.

А потым на другім паверсе музея зладзілі канцэрт для ўсіх гасцей. Яна Явіч, Людміла Клачко і Маргарыта Латышкевіч чыталі тут свае вершы — пра каханне і не толькі. Уладзімір Дрындрожык, лідар гурта «Шэпт срэбра», праспяваў некалькі песень і прадэманстраваў адзін з кліпаў свайго калектыву. Ганна Валынец, удзельніца гурта «НебаСгу», таксама падарыла гасцям добры настрой і некалькі песень на розных мовах.

Вядучай імпрэзы і адной з выступоўцаў была Ганна Чумакова, паэтэса і бард. Пасля вечарыны Ганна прызналася, што зусім не стамілася танчыць і спяваць увесь вечар, а, наадварот, атрымала шмат пазітыўнай энергіі.

А пасля ўсім прапанавалі напісаць на паперцы свае пажаданні і скласці іх у скрынку. Напісаць... пяром Песняра. Гавораць, што напісанае абавязкова спраўдзіцца...

**Марыя ГАЛУБЦОВА**

# Шэсць стагоддзяў разам

Вялікую колькасць слухачоў, у тым ліку прадстаўнікоў дыяспар паўднёвых краін, сабрала падчас XXI ММКВК пляцоўка прэзентацыі кнігі У. Ліхадзедава «Беларусь і мусульманскі свет» з серыі «У пошуках страчанага».

Асаблівая ўвага нададзеная супольнасці беларускіх татар, якія даўно інтэграваліся ў наша грамадства, іх культуры і звычаям. «Мяне цікавіць усё, што датычыць нашай гісторыі, — каменціруе У. Ліхадзедаў чарговую частку свайго глабальнага гісторыка-філакартычнага праекта. — Адна з найменш вывучаных тэм — гісторыя і культура мусульманскіх краін у Беларусі. На працягу сарака гадоў збіраліся па крупіцах адпаведныя паштоўкі: выявы мусульманскіх могілак, пабудоў, сем'яў мусульман на тэрыторыі Беларусі — усё, што толькі можна было знайсці». Урэшце стала магчымым правесці адпаведную даследчую працу, вынік якой зафіксаваны ў прэзентаваным выданні на пяці мовах: беларускай, рускай, англійскай, арабскай, турэцкай.

Прачула і шчыра вітаў падзею Старшыня (муфцій) Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь Абу-Бекір Шабановіч: «Кніга пра мусульман, выдадзеная беларускімі аўтарамі, яшчэ «цёплая», з друкарні, і такі ж цёплы яе змест. Татары — той народ, які больш як шэсць стагоддзяў пражыў у дадзеным рэгіёне. Адарваны ад гістарычнай радзімы, ад уласнай этнакультурнай прасторы, тут ён захаваўся не толькі фізічна, але і духоўна. Чаму? У кнізе У. Ліхадзедава паміж іншым дадзены адказ і на гэтае пытанне».

Сапраўды, як сведчыць гісторыя, татарская дыяспара прыйшла сюды «не ваяры, а як абаронцы» — ва ўсялякім выпадку, на земляробчым «фронце». Напрыканцы XIV стагоддзя землі Беларусі былі малазаселены: спатрэбілася шмат працоўных рук. У. Ліхадзедаў, падкрэсліў муфцій, прыводзіць шматлікія гістарычныя факты замацавання нашага адзінства. «Больш як трыццаць нацый жывуць тут і адчуваюць сябе адзінай сям'ёй. Тут ніколі не было ні радыкалізму, ні экстрэмізму, ні тэрарызму. У гэтым аазісе міру, узаемаразумення мы жывём і заўсёды будзем жыць у згодзе».

Апошнюю частку сваёй прамовы муфцій Шабановіч казаў па-беларуску: «Святы абавязак кожнага — падтрымліваць, развіваць і мацаваць усё, што напрацавана продкамі, — у тым ліку і гэты аазіс».

Для прадстаўнікоў мусульманскай дыяспары кніга У. Ліхадзедава і адпаведная сустрэча на кніжнай выстаўцы стала прыемным сюрпрызам. Сафары Хамід, аташэ па культуры пасольства Ісламскай Рэспублікі Іран у Рэспубліцы Беларусь, выказаў спадзяванне, што прэзентаванае выданне істотна палепшыць грамадскае ўяўленне пра іслам і мусульман. «Ведаць адзін аднаго значыць пазбегнуць варагавання. Незнаёмыя культуры — нібы цёмныя пакоі, дзе ніхто не ведае, што адбываецца. Кніга У. Ліхадзедава можа зрабіцца своеасаблівым святлом, і, я спадзяюся, гэта адбудзецца ў Беларусі. Са свайго боку мы прыкладзём усе намаганні дзеля перакладу кнігі на фарсі (персідскую мову)», — адзначыў спадар саветнік.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Тэатр аднаго верша

Пакуль простыя людзі адзначалі свае рамантычныя святы, суровыя творцы і аматары паэзіі сабраліся ў «Цэху», так званай крэатыўнай прасторы, на адкрыцці Трэцяга міжнароднага паэтычнага фестывалю «Вершы на асфальце» памяці Міхася Стральцова і слэме, што адбыўся ў яго межах.

Слэм — гэта паэтычны турнір, падчас якога ўдзельнікі за адведзены ім час мусяць так данесці верш да гледача, каб той адчуў яго на ўласнай скуры, стаіў дыханне, а калі трэба — пусціў слязу. Можна проста чытаць, можна спяваць ці скакаць па сцэне — жорсткіх правілаў не існуе. Таму звычайна беларускі слэм атрымліваецца вельмі разнастайным. Так было і 14 лютага.

«Стральцоўскі» слэм прайшоў пад назвай «Зборная Беларусі — зборная Свету», дзе за зборную Беларусі выступалі Раіса Баравікова, Вера Бурлак, Галіна Дубянецкая, Віктар Жыбуль, Глеб Лабадзенка, Таня Светашова, Усевалад Сцебурака, Андрусь Такіндант, Віка Трэнас і Анка Упала. У першым туры, дарэчы, чыталі не свае вершы, але ўлюбёныя творы іншых паэтаў: Рыгора Барадуліна, Аляксея Пысіна, Віктара Шалкевіча, Віталя Рыжкова і інш. За зборную Свету выступалі Андрэй Адамовіч (чытаў пераклады з Акіта Фуджы, Японія), Анастасія Векшына (Расія — Польшча), Марыя Галіна (Расія), Алена Герасімюк (Украіна), Юрый Завадскі (Украіна), Марыя Мартысевіч (чытала пераклады з Галіны Крук, Украіна), Алена Сцепаненка (Украіна), Альвідас Шляпікас (Літва) і Георгій Яфрэмаў (Літва-Расія), Юля Цімафеева (чытала пераклад з Чарльза Букоўскага) і Аркадзь Штыпель (Расія).

Прыемным бонусам стала выступленне беларускага паэта Сяргея Прылуцкага, які стала жыве ў Кіеве.

З паўфіналу пачалася «адвольная праграма» — хто хацеў, чытаў свае вершы. Што цікава, упершыню ў паўфінал слэму не прайшоў безумоўны лідар гэтага віду спаборніцтваў Віктар Жыбуль. Фіналістамі ж сталі Глеб Лабадзенка, Таня Светашова і Аркадзь Штыпель. Апошні, які літаральна спяваў вершы, стаў пераможцам.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Невядомыя факты пра вядомых людзей

«Дыялогі на мяжы стагоддзяў. Класікі і сучаснікі ў інтэр'еры часу» Выдавецкага дома «Звязда» — не першая і, упэўнена, не апошняя кніга журналісткі Таццяны Падаляк. Не апошняя яна хаця б таму, што выйшла толькі першая частка «Дыялогаў…» Прэзентацыя выдання прайшла ў сталічнай бібліятэцы № 1 імя Льва Талстога.



Таццяна Падаляк доўгі час працавала ў газеце «Звязда» ды іншых выданнях, журналісцкай працы прысвяціла больш як чвэрць стагоддзя. Цяпер яна — кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры тэорыі і метадалогіі журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, выкладае і піша кнігі. За гады творчай працы назапашана шмат матэрыялаў, гутарак з надзвычай цікавымі асобамі.

«Дыялогі на мяжы стагоддзяў» — кніга інтэрв'ю са знакамітымі дзеячамі навукі і культуры: пісьменнікамі, паэтамі, публіцыстамі, мастакамі, скульптарамі, музыкамі, кампазітарамі, акцёрамі, рэжысёрамі і г. д. Выданне карыснае тым, што дазваляе праз успаміны і ўражанні аўтара пазнаёміцца, няхай і ўскосна, з гэтымі людзьмі.

Гасцей на сустрэчы было нямала: у чытальнай зале бібліятэкі нават не хапала месцаў. На прэзентацыю прыйшлі навучэнцы Мінскага дзяржаўнага прафесійнага ліцэя № 5 транспартнага будаўніцтва. Хлопцы азнаёміліся з кнігай загадзя, з цікавасцю слухалі аўтара, задавалі шмат пытанняў — зарэкамендавалі сябе людзьмі творчымі і цікаўнымі. Прысутнічаў на прэзентацыі і знаны філагаг-моваэнаўца Міхась Шавыркін, які стаяў ля вытокаў часопіса «Роднае слова» і 20 гадоў яго ўзначальваў. На прэзентацыі сваёй кнігі Таццяна Падаляк распавяла шмат гісторый пра нашых вядомых землякоў: «Так атрымалася, што наша гутарка з Піменам Панчанкам стала апошнім яго інтэрв'ю. Што асабліва ўразіла, Пімен Емяльянавіч быў ужо досыць пажылым чалавекам, вельмі хворым, ногі амаль не слухаліся яго, а я была зусім маладой журналісткай, але тым не менш, калі прыйшла да яго, ён абапёрся аб крэсла, прыўстаў: «Я не магу не выказаць павагу і пашану жанчыне».

Хтосьці з прысутных запытаўся: «Сустрэча з кім вас больш за ўсё уразіла?» Таццяна адказала не задумваючыся: «З Міхаілам Савіцкім. Гэта мастак, які прайшоў праз пекла канцлагераў. У Севастопалі ён трапіў у палон. Страшны лёс!.. Калі вызвалялі «Дахаў», ён быў у 30-м бараку, адтуль жывым ніхто не выйшаў. Ён цудам застаўся жыць».

Кніга «Дыялогі на мяжы стагоддзяў. Класікі і сучаснікі ў інтэр'еры часу» Таццяны Падаляк, упэўнена, зацікавіць многіх. Чытаеш змест і пачынаеш крыху зайздросціць Таццяне Уладзіміраўне: колькі знакамітых людзей сталі героямі яе публіцыстычных твораў!

**Марыя ГАЛУБЦОВА**

# Пад знакам гумару

Атмасфера творчай вечарыны айчыннага пісьменніка-гумарыста Васіля Найдзіна, які нядаўна адзначыў 70-гадовы юбілей, сталася надзвычай цёплай і шчырай: сюды завіталі яго калегі, паплечнікі і проста аматары літаратуры.

Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў у прывітальным слове раскрыў асобныя старонкі біяграфіі творцы. У друку В. Найдзін выступае з 1965 года. Пасля службы ў арміі і флоце скончыў Мінскую вышэйшую партыйную школу, завочна — Магілёўскі педагагічны інстытут. Шмат гадоў аддаў працы ў рэдакцыі часопіса сатыры і гумару «Вожык». Затым загадваў рэдакцыйна-выдавецкім аддзелам сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Падчас вечарыны Васіль Іванавіч быў узнагароджаны Ганаровай граматай СПБ. Павіншаваць яго прыйшлі пісьменнік і мастак Сяргей Давідовіч, галоўны рэдактар часопіса «Вожык» Юлія Зарэцкая, намеснік галоўнага рэдактара гэтага ж выдання Аляксандр Каршакевіч, старшыня секцыі сатыры і гумару СПБ Мікола Шабовіч, мастак Анатоль Гармаза, артысты эстрады Зінаіда Феакцістава, Надзея Мікуліч, Сяргей Кравец і Уладзімір Радзівілаў, а таксама былыя калегі па працы. Разынкай свята стала нізка анекдотаў ад У. Радзівілава і В. Найдзіна.

**Яна ЯВІЧ**

Супрацоўнікі Рэдакцыйна-выдавецкай установы «Выдавецкі дом «Звязда» глыбока смуткуюць і выказваюць шчырыя спачуванні родным і блізкім у сувязі з напаткаўшым іх горам — смерцю народнага мастака Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Гаўрыіла ВАШЧАНКІ.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуюць разам з пісьменніцай, намеснікам старшыні аддзялення Наталіяй Мікалаеўнай Касцючэнка ў сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю БАЦЬКІ.

## Алег САЛТУК



### На радзіме

*Крыўды ўсе адпрэчу да адной —*
*Радасці няхай не замінаюць.*
*Зорнай прычашчуся цішынёй*
*І яе бязмежнасцю без краю.*

*Утаплюся ў кветках палявых,*
*Увап'юся іхнім араматам.*
*Назаўжды забудуся пра тых,*
*Хто перада мною вінаваты.*

*Хай зайздросцяць,*
*што жыву я тут,*
*Дзе ў цане любоў і чалавечнасць,*
*Дзе гадзін не лічаць і мінут*
*І зусім не думаюць пра вечнасць.*

### Развага

*Ніколі дзённікаў не вёў,*
*Не супыняў свой дзень пражыты.*
*Самоту нёс да курганоў,*
*А весялосць туліў да жыта.*

*Я там забытае шукаў,*
*Супакаенне, асалоду.*
*А час ляцеў без пераправ,*
*Без лодкі, ветразя і броду.*

*О, пераправы і брады,*
*Жыцця нязнаныя дарогі!*
*Пабеглі некуды гады,*
*Хоць, кажуць, іх у Бога многа.*

*Яму відней, судзіць не мне.*
*Да курганоў, да жыта крочу.*
*Мінае дзень і век міне.*
*І плачуць, і смяюцца вочы.*

### Снягі

*І выпаў снег,*
*І думкі пасвятлелі,*
*Учарашняе пад імі знікла тло.*
*І ў гэтай новай, першабытнай белі*
*Ізноў душы кранулася святло.*

*Снягі ляглі*
*Надоўга, непарушна.*
*Такія таямнічыя яны,*
*Што стала раптам весела і скрушна*
*Ад іхняй, ды і ўласнай, белізны.*

### Валун

*Ад валуна дарогі*
*Вядуць ва ўсе бакі.*
*А ён ляжыць, нябога,*
*Нібыта бык які.*

*Закручаныя рогі,*
*Вялізны — не абняць.*
*Прад ім аж млеюць ногі,*
*Паджылачкі дрыжаць.*

*Ах, гад ты падкалодны,*
*Стары, нямы вядзьмак,*
*З тваіх дарог ніводнай*
*Не трэба і за так!*

*Былі ў мяне царэўны*
*І серабро было,*
*І ў сэрцы маім спеўным*
*Радзімых слоў святло.*

*Ляжы сабе, рагаты,*
*Маўчаннем не пужай.*
*Я ў лес пайду кашлаты,*
*Не абміну і гай.*

*І выберу такую*
*Дарогу - будзь здароў!*
*Не ты , а я вартую*
*Тут казку лесуноў.*

### Памяць

**Антону Муліцу**

*Мой аднакласнік і таварыш мой,*
*Няма даўно маленькай нашай вёскі,*
*Ды птушак маладыя адгалоскі*
*Нясуцца над Нярэшняю старой.*

*Дзяцінства пагубляліся сляды,*
*Драўляная абрынулася школа.*
*І толькі безгалоса і вясёла,*
*Адчайна там цвітуць яшчэ сады.*

*Давай успомнім,*
*як раней жылі*
*Там, дзе блукае стомленая памяць*
*І дзе стаіць таполевая замець,*
*Нібы дымы над хатамі калісь.*

*Не вечна ўсё, ды вечная зямля,*
*Якая нарадзіла, гадавала,*
*Спявала разам з намі, гаравала*
*І ў людзі нас выводзіла пасля.*

*Мы без яе не сталі б анічым.*
*І ёй нам быць удзячнымі да скону.*
*Яна ад усяго нам абарона…*
*Давай, браток, шчасліва памаўчым.*

## Таццяна БАРЫСЮК



### Закон захавання паэзіі

*Калі зачараваны светам,*
*задумам цесна ў галаве,*
*калі ты спраўдзіўся паэтам,*
*табой Паэзія жыве.*

*Бывае —*
*тлум ці сіл нястача,*
*не йдзе паэзія з душы.*
*Шукай і думай —*
*Бог убачыць —*
*ты ж сэрца чыстым беражы.*

*Разгоніць сонца хмараў зграю*
*і будзе ўхвалены парыў.*
*Паэзія —*
*не памірае*
*ў тым,*
*хто яе калісь стварыў.*

### Зімовы эцюд

*Ледзяшовай іглой зашывае зіма*
*беласнежнае футра.*
*Пасля лета спякотнага*
*ўжо не халодная наша «тундра».*

*Выцінанкі-анёлы на вокнах,*
*і снег зіхаціць светла-мройна.*
*Каб не снег на плячах,*
*але сонца гарачага летняга промні!*

*Беласнежныя шапкі ў князёўнаў —*
*высокіх красуняў-ялінаў.*
*Шалясцяць вербы ніцыя мне ледзяшамі*
*крыштальных галінаў.*

*Снег какосавай стружкай ляціць.*
*Верш ляплю,*
*як сняжок,*
*каб сагрэцца!*
*Новы год —*
*як загрузка энергіі*
*ў напрацаванае сэрца!*

### Ісціна ў вясне

*Я веру:*
*ісціна ў вясне!*
*Зноў абуджаецца прырода:*
*Капеж,*
*смех сонца,*
*крыгаходы…*
*Час абнаўлення —*
*для мяне!*
*Я веру: ісціна ў вясне!*

*Хай будзе ісціна ў вясне!*
*Ізноў надзею сэрца спеліць,*
*зноў у тваё каханне верыць*
*і што яно не падмане.*
*Хай будзе ісціна ў вясне!*

### Дзень Святога Валянціна

**Адлюстраванне-1**

**NN**

*Я дома. Палон успамінаў.*
*Я еду ў тралейбусе стылым.*
*Ты мне пасміхаешся ветла.*
*П'ём каву ў пакоі сагрэтым.*

*П'ём каву ў пакоі сагрэтым.*
*Ты мне пасміхаешся ветла.*
*Я еду ў тралейбусе стылым.*
*Я дома. Палон успамінаў.*

**Адлюстраванне-2**

*Ад нараджэння да смерці*
*сутнасць сваю бы сцвердзіць!*
*Вопыту рознага зведана.*
*Шлях мой пройдзены да сярэдзіны.*

*Шлях мой пройдзены да сярэдзіны.*
*Вопыту рознага зведана.*
*Сутнасць сваю мне сцвердзіць*
*хоць бы паспець да смерці!*



*Фота Кастуся Дробава*

## Наталля САВЕТНАЯ



### ***

*Як не хочацца верыць зіме —*
*быццам сон…*
*Снег зямлю ахінуў нечакана.*
*Ды рака не здаецца ў марозны палон,*
*Як вясною, шуміць несціхана!*

*А зіма выпрабоўвае чары свае,*
*Над ракой-ганарліўкай варожыць —*
*Ды з вадою сплываюць закляцці яе,*
*Ўсё гуллівы напеў пераможа.*

*Хай сцяжына ў сумётах,*
*віхура гудзе*
*І азяблыя дрэвы гайдае…*
*Ды віруе жыццё у імклівай вадзе,*
*Бы гарачая кроў маладая!*

### Над вёскай — ціша

*Стаіць над вёскай ціша незямная,*
*Святлом руҗовым далягляд гарыць,*
*Прытомленае сонейка спяшае*
*Нарэшце за ваколіцай спачыць.*
*Скідае сена дзед у стог духмяны.*
*Цямнее. Ды не спіць прамень адзін.*
*Ён твар бабулі лашчыць апантана,*
*Блішчыць у сумных кропельках слязін,*
*Святлее на далонях спрацаваных*
*І гасне ў вокнах хатак-сірацін.*

### ***

*Дубы і сосны ля абрыва*
*Галлём кранаюць асаку,*
*А да вады паўзе імкліва*
*Карэнне змейкай па пяску.*

*Тут яркае святло струменіць,*
*Калі заслону дрэў прарве,*
*І я ныраю, збіўшы цені,*
*Сляды пакінуўшы ў траве.*

*У ззянне дзён плыву так лёгка…*
*Рака іскрыцца ў берагах.*
*А маладзік скрозь павалоку*
*З нябёсаў асвятляе шлях.*

### Пакінутая хата

*Вокны хаты старой забіты,*
*Разбураецца дах паволі.*
*І на ганак са звыклым спрытам*
*Гаспадар не выходзіць болей.*

*Пустазелле даўно пануе*
*Там, дзе быў агарод калісьці,*
*Крапіва цішыню вартуе,*
*Кволы плот падпірае лісцем.*

*Без надзеі старая хата*
*Пазірае кудысь тужліва*
*І глядзіцца ніякавата*
*Каля весніц сівая сліва.*

**Пераклад з рускай Аксаны ЯРАШОНАК**



# Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# Пятро і Манька

## *Урывак з рамана*

**Пісьменніку, калі работа набліжаецца да канца, цяжка бывае расставацца са сваімі героямі, з якімі звыкся, незалежна нават ад таго, станоўчыя гэта персанажы ці не зусім. Для мяне былы партызан Пятро Мачалаў і вясковая прыгажуня Манька жывыя, непаўторныя людзі, як і тая незабыўная абстаноўка 1945 года, калі ім давялося жыць, працаваць, будаваць свае адносіны, кахаць. Была яшчэ з імі трэцяя асоба — равеснік іх Санька, але ён, на жаль, загінуў у партызанах. Быццам ведаў пра свой нешчаслівы лёс, пакінуў сябру просьбу, наказ…З гэтай сітуацыі па сутнасці і пачынаецца мой раман «Пасля вайны», які я аддаў у часопіс «Полымя», а фрагмент прапаную чытачам «ЛіМа».**

У Камянцы аднавіўся райцэнтр, а ў Ратайчыцах — сельсавет. Старшынёй прызначылі былога камісара партызанскага атрада імя Вушакова Пятра Мачалава. Тут яго ведалі. У першыя гады вайны жыў на хутары недалёка ад Ратайчыцаў, а потым у гэтых мясцінах і партызаніў. Па нацыянальнасці рускі, родам ажно з Сахаліна. У армію быў прызваны якраз перад самай вайной, у 1941-м. Да таго часу быў ужо жанаты, жонка Анфіса толькі што нарадзіла двойню — хлопчыка і дзяўчынку, але ў ваенкамаце ніякага значэння гэтай акалічнасці не надалі. Служыць давялося ў другім канцы СССР — у Брэсце. У першы ж дзень вайны, як і многія, трапіў у акружэнне. Даганяць сваіх не пабег і апынуўся ў глыбокім тыле ў немцаў. Наткнуўся на хутар, уладальнік якога, мясцовы дзядзька, прыпісаў акружэнца да сваёй гаспадаркі. Пазнаёміўся з такімі ж, як сам, прыпіснікамі з суседніх вёсак. Моцна пасябраваў з таварышам па няшчасці акружэнцам Санькам Растатуевым, які прыбіўся ў Пруску да Лявона Кужаля. Разам танчылі на вясковых музыках, гулялі з мясцовымі дзяўчатамі, разам хадзілі адзначацца ў паліцэйскі ўчастак у Ратайчыцы, як таго патрабавала тагачаснае становішча. Аднак пра тое, што жанаты, сябру не адкрываўся.

Пра лёс сваёй сям'і нічога пэўнага не ведаў. Восенню 42-га змовіліся ісці ў партызаны. Прынялі ў атрад. Спачатку быў радавым, а потым пачаў расці. Падняўся да камісара атрада. На гэтай пасадзе ён і сустрэў вызваленне, прыход Савецкай Арміі. Партызанка, якой, здавалася, не будзе і канца, скончылася. Адных мабілізавалі ў армію, паслалі на фронт, другія засталіся, атрымалі кадравыя прызначэнні, парабіліся начальнікамі. Пятро нечакана апынуўся на пасадзе старшыні сельсавета. Калі прапанавалі — даў згоду. Уступіў у партыю яшчэ ў атрадзе, рэкамендацыю далі Афінагенаў і Мурашка. Пасаліднеў. У сельсавеце шмат спраў: паштовая сувязь, медыцынская прафілактыка і дапамога, школьніцтва, арганізацыя вясковай патрэбкааперацыі, гандлю таварамі першай неабходнасці і іншае. У Ратайчыцах ён адкрыў нават ізбу-чытальню, увёўшы ва ўжытак расійскае слова «изба». А ў Прусцы — лаўку, гандляваць у якую паставіў Салівэся з Ліпны як чалавека, які быў прыдатны да гэтай справы, члена партыі.

Не забываў Пятро і пра сябе. Справіў кіцель, галіфэ, белыя буркі. Твар яго акруглеў, пабольшаў і стаў больш значны, самаўпэўнены. Трэба было неяк уладкаваць сямейнае жыццё. Выклікаць жонку, каб яна ехала ажно з Сахаліна сюды, лічыў па меншай меры немэтазгодным. Яна пры дзецях, а Беларусія далёка. Гэта па-першае. А па-другое, што ж ёй ехаць на тэрыторыю, якая яшчэ нядаўна знаходзілася пад акупацыяй? Яны там чыстыя, не тое, што тут. Падумаў, што і клімат тут іншы, і няпроста было б Анфісе тут прывыкаць да новых умоў. Да таго ж, не мог ён забыць караша свайго закадычнага Санькі Растатуева і яго просьбу. Просьбу крыху дзіўнаватую, але шчырую. «Калі мяне заб'юць, — казаў Санька, — дык прашу цябе, Пятро, жаніся на Маняшы, каб не засталася яна адна. Жалка! Люблю я яе, брацішка, і дабра ёй жадаю. Эх, курносенькая мая!..» Здарылася так, як Санька і прадчуваў. Не выйшаў з апошняга бою. Не дачакалася «курносенькая» свайго каханага. Жыла Маняша па-ранейшаму ў Прусцы, у бацькоў. Звалі яе не Маняшай, як называў сібірак Растатуеў, а па-мясцоваму, Манькай. Саньку тут не забылі, дазналіся пра горкі лёс хлопца і часам згадвалі, хоць і не так часта, як калісьці, калі ён лічыўся зяцем. Міхаль, бацька Манькі, — маўчун, а маці, старая Вера, казала: «Добры быў бы зяць», — і сумна ўздыхала. Да гэтай страты далучылася яшчэ адна бяда: прыйшла «пахаванка» на сына Колю — Маньчынага брата. Коля загінуў пад Варшавай, на Сандамірскім плацдарме. Пра Колю Мачалаў не ведаў, а сябра Саньку і яго наказ трымаў у памяці. Знайшоўшы вольную хвіліну, вырашыў наведаць Маняшу.

Праз Пруску Пятро ехаў «на рысях». Параўняўшыся з яе хатай, рэзка асадзіў каня, той нават зрабіў некалькі вымушаных крокаў назад. Затрашчалі аглоблі. Суцішыўшы жывёліну, ён паставіў каня з санкамі каля плота, расслабіў вупраж і выбраў з-пад хамута грыву. Прывязаў за слуп лейцы, зайшоў у хату. У сенцах пахла паранкай, на сцяне вісела некалькі вянкоў цыбулі. Адчыніў дзверы на чыстую палавіну. Адчуў, як торгнулася левае павека. Гэта пачалося яшчэ ў лесе: уцякалі ад карнікаў, ён бег разам з усімі і не ўхіліўся ад сасны, моцна ўдарыўся, вось з таго часу і не праходзіць.

— Добры дзень! — павітаўся ён, здымаючы з галавы фуражку. Абабіў прыліплы да ботаў снег. Зняў і павесіў на вешалку каля дзвярэй афіцэрскі шынель. Застаўся ў напаўваенным вопратцы: паліняны на сонцы кіцель, на нагах белыя буркі. Зморшчыўшыся, абмацаў паясніцу. Усё яшчэ даймалі скулы, не пакідала гэта партызанская хвароба.

Манька якраз была дома, прыгледзелася да яго і пазнала. Не раз бачыла каля Санькі, ведала, што сябруюць.

— Добры дзень, — адказала яна. Тонкія скобкі броваў падняліся ўверх, у вачах, заўважыў Пятро, з'явіліся і запытанне, і праблеск надзеі.

Хата напоўнілася маўчаннем. Пахла печаным бульбай і вымытай падлогай. У кутку, у ёмістай драўлянай кадцы, стаяў разложысты фікус, абвешаны шырокімі зялёнымі лісцямі. «А яна і сапраўды курносенькая», — падумаў былы партызан, прыглядаючыся да дзявочага аблічча, да сукенкі з шэрага паркалю, у якую яна была апранутая, і кароткага станіка, які зграбна аблягаў грудзі.

Манька — адна дачка ў бацькоў, адзіначка, як казалі ў Прусцы, і выдаваць доню абы за каго Міхаль з Верай не хацелі. Вясёлая была Манька калісьці, грамчэй за ўсіх на музыках смяялася. Цяпер колішнія вочы «з жарынкамі» атухлі, рысы твару пазначыў сум, але выглядала па-ранейшаму стройнай і прывабнай, хоць, можа, крыху пераспелай. Ранейшай фанабэрыстасці і непадступнасці ўжо не было. Маці спачувала: «Дочухна, ты яшчэ не акабецілася...» Вярэдзілі душу гэтыя спачуванні.

Яна неяк марудліва прайшлася па хаце, мімаходзь зірнула ў люстэрка, што вісела на сцяне, папраўляла на скронях валасы, потым села на ложак, на якім узвышалася, адна на адной, некалькі падушак, а на спінцы бялеў саматканы ручнік з прыгожымі візэрункамі і махрамі. Яму падабаліся яе замаруджаныя, лянівыя рухі.

У хаце было цёпла натоплена.

— А дровы дзе бярэце?

— З лесу возім, з паломаў, — адказала Манька і ўздыхнула. Умела яна ў патрэбны момант жаласна ўздыхнуць і нават заплакаць. Зноў прыгледзелася да госця, заўважыла чырвоную мецінку на шчацэ, каля вуха. Гэта ныркнуў, пакінуў след асколак ад нямецкай гранаты. Напамінак, як аднойчы даволі няўдала хадзілі на «жалезку». Манька, аднак, не стала распытваць, таму не было сэнсу і тлумачыць.

— Помню, у цябе былі красівыя бацінкі на скрыпах, — сказаў Пятро.

— Калі тое было!

— Даўно не бачыліся, — счакаўшы, прамовіў ён, сядаючы на столак.

— Я на музыкі ўжо не хаджу, не танцую, — уздыхнула Манька, успомніўшы, відаць, ранейшае.

— Я разумею.

— Без Санькі адна я. Быў бы ён, дык можа разам і на музыкі б схадзілі, а так...

— Рэдкія цяпер музыкі.

— Рэдкія, няма каму скакаць...

— Ён жа і мне другам быў. Шкада яго, не сказаць, як шкада. Куля яго скасіла. Загінуў. Апошні бой быў, можна сказаць.

Манька заплакала. Відаць было, як пачалі ўздрыгваць плечы. «А яна прыгожая», — падумаў ён і сказаў:

— Ужо не вазвярнёш. Быў да шаленства адважны.

Дзяўчына стала ўспамінаць свайго Саньку:

— Паглядны быў, прывабны дужа і вельмі добры. Кругланькі. На танцах усё мяне браў. Ды і я прыгожая была, крэпка на зямлі стаяла. Хораша мы з ім гулялі, пад бярозай, вунь той, — яна кіўнула на старую бярозу за акном, — стаялі. Ноч. Толькі зоркі свецяць. «Паглядзі, — кажа, — на звёзды. Мігцяць, быццам прывет шлюць».

Пятро мала распытваў, а больш расказваў сам.

— Маняшай ён цябе называў.

— Маняшай, — слаба пасміхнулася яна, удзячная, што сябар успомніў гэтае Санькава слова. — «Адзену, — казаў, — шамрэць будзеш!» Глыбокі след у сэрцы пакінуў... — Яна зарыдала, заплакала яшчэ больш, абхапіла твар рукамі.

— Не плач, Маняша, не пралівай слёзы, дарагая, — ён падышоў, сеў побач. — Жывыя павінны думаць пра жыццё, нада глядзець у будучае.

— У будучае?

— Так.

— Можа, і так...

— Вайна прынясла вялікія страты і разбурэнні, а цяпер з кожным днём жыццё савецкіх людзей паляпшаецца. Хаця, зразумела, многія яшчэ ў зямлянках жывуць. Але строім, сазідаем. Да і вайна скора скончыцца. Наша дзела правае, як кажа таварыш Сталін.

Манька ўзяла ручнік, усхліпваючы, выцерла вочы, але настрой, відаць было, не палепшыўся. Пятру стала шкада яе. Яна ўсё больш яму падабалася.

— Ведаеш, што Санёк мне казаў? У выпадку, кажа, калі пагібну, жаніся на Маняшы, надта яна харошая і прыгожая.

— Не!

— Ну чаму!

— Як жа я яму здраджу?

— Не здрадзіш, а, па сутнасці, выканаеш яго наказ. Павер, я не выдумваю.

— Не ведаю.

— Вер мне.

— Ой!

— Харошы, верны караш быў, апошні сухар дзялілі. Усё папалам. Між іншым, расказваў мне пра цябе, надта ён цябе любіў, клапаціўся, баяўся, каб адна не засталася. Так і сказаў: «Калі я загіну, абяцай мне на Маняшы жаніцца».

— Няўжо гэтак і сказаў? — Манька ад здзіўлення абхапіла рукамі скроні і анямела.

— Клапаціўся ён пра цябе.

— Ой, не ведаю...

— Не упрямься, — сказаў ён па-руску.

Яна задумалася, потым спытала:

— Ці ёсць у цябе хата?

— Я бяздомны. Жыву на кватэры.

— А сям'я? Не жанаты?

— Не, — схлусіў ён, аблізнуўшы вусны.

Яна змоўкла, апусціла вочы, паружавела, доўга пра нешта думала.

— Давай распішамся, — зноў азваўся ён.

— Як жа мы будзем?

— Будзем! Неяк пражывем.

Відаць было, што Манька здалася. Не такая была пераборлівая ды наравістая, як даўней. Весялей зірнула на Пятра, мацней адчула мужчынскі пах, які ішоў ад яго. Бацькі, Міхаль з Вераю, недзе адсутнічалі, вяртацца не спяшаліся, і Пятро палічыў гэта добрым знакам, прысунуўся бліжэй.

— Маруха мая!

— Санька Маняшай назваў, а ты Марухай...

— У мяне свае словы.

— Сватоў пасылаць будзеш?

— Калі хочаш, дык можна знайсці каго, але нашто?

— А вянчацца?

— Я парцейны.

— Ну дык і што, што парцейны?

— Не паложана.

— Каб пабрацца, дык закахацца трэба, а мы, ты і я, далёкія ад гэтага.

— Нічога, сцерпіцца-злюбіцца, як у нас, у Расіі, кажуць. Будзем жыць адной пасцелю ды і ўсё.

Чамусьці зноў успомніў Анфісу, незадаволены тым, чаго гэта яна лезе ў памяць.

— А што ты гатовы зрабіць, каб даказаць мне сваё каханне?

— Усё, што захочаш. Хочаш, на калені перад табой стану! Эх, дарагуша ты мая! Усё зраблю. Усё, што ні захочаш!

Манька нічога не адказала. Памаўчаўшы, спытала:

— А бацькам што скажам?

— Паставім перад фактам. Па-парцізанску.

— Нахабны ты, але ж дзяўчаты любяць нахабных, — сказала яна, перажываючы салодкі сорам. — Гаворыш, а нават не пацалаваў...

— Давай пацалуемся.

Ён хацеў прыгарнуць, прытуліць яе да сябе, але дзяўчына на першы раз не далася, тузанулася ад яго ўбок. «Нядократка! — пасміхнуўся ён. — Але, здаецца, забрытаў».

— Май цярпенне, — сказала яна на яго заляцанні. — А то надта ўсё ў цябе хутка.

Выходзячы ад яе, ён спатыкнуўся аб парог, непрывычна падвышаны.

«Значыць, вернецца!» — упэўнілася дзяўчына і ўсміхнулася.

Яны распісаліся, і ён забраў Маньку да сябе ў Ратайчыцы. Ніякага пасагу за маладой не ўзяў, апроч таго, што яна прывезла з сабой пару звязаных у посцілку падушак і коўдру з прасцінамі. На гэтую пасцель адразу ж і леглі, не паспеўшы нават як след распрануцца. Манька хацела зняць з сябе гальку, але ён не мог чакаць, пакуль яна ўправіцца з гэтай сваёй ніжняй кашуляй, надта хацелася, прыспешваў...

# Чалавек на памежжы:

## У сілавым полі абставін і самадэтэрмінацыі

Аб’ёмная і надзвычай складаная праблема — «чалавек і абставіны», якая ставіцца, вывучаецца і асэнсоўваецца з далёкіх часоў. А нявырашаных ці недастаткова даследаваных пытанняў на гэтым праблемным полі, у тым ліку і на літаратурных абсягах, застаецца шмат.

Так ужо здаўна павялося, што ў дыялагічнай сістэме «чалавек і абставіны», «характар і абставіны» чалавек у сваіх дзеяннях і ацэнках часта прыкладае немалыя намаганні, каб перакласці асноўны цяжар уплыву на вонкавыя прычыны. Такая ўжо псіхалагічная прырода чалавека, пэўным чынам абумоўленая, відаць, і яго нацыянальным менталітэтам. Але ж і абставіны падчас складваюцца ў такіх формах і праявах калізій, супярэчнасцей і завіхрэнняў, што пераадолець іх няпроста. Асабліва вялікія патрабаванні ўзрастаюць да чалавека, вымагаючы ад яго высокага напружання, подзвігаў і мужных, а ў шэрагу выпадкаў самаахвярных дзеянняў у складаныя перыяды грамадскай гісторыі, калі ўрываецца злая навала з пагрозай жыццю тваім блізкім, родным, а ўрэшце — існаванню Бацькаўшчыны. У такія часы нашмат павышаецца ў цане ўнутраная гатоўнасць чалавека да подзвігу і самаахвярнага ўчынку. У такія перыяды, як вядома, нават гуманістычнае хрысціянскае веравучэнне, у прынцыповай сваёй сутнасці арыентаванае на ўмацаванне і падтрыманне міру, суладнасці і гарманізацыі ў людскіх узаемаадносінах, натхняла чалавека ўзяць у рукі зброю.

Гісторыя зафіксавала такі рэальны факт. Перад пачаткам Кулікоўскай бітвы (1380 г.) з татарскім войскам Залатой арды маскоўскі князь Дзімітрый Іванавіч Данскі гутарыў і раіўся з вядомай царкоўнай асобай, прападобным Сергіем Раданежскім, які заўважыў: «Княжа, з Боскай дапамогай смела ідзі ў бой. Ты на тое і пастаўлены Госпадам, каб клапаціцца пра Радзіму. Бог уручыў табе гэту зямлю, і меч у руцэ тваёй паслужыць праўдзе». Адначасна з гэтым Сергій Раданежскі благаславіў на смяротна небяспечную ратную справу інака Перасвета. Дакладна вядома, што адразу ж пасля паядынку паміж інакам Перасветам і татарскім воінам Чалубеем (абодва яны ў гэтым паядынку загінулі) і распачалася вядомая ў гісторыі вялікая бітва на Куліковым полі.

Такіх рэальных і рамантызаваных прыкладаў, калі самадэтэрмінацыя чалавека становіцца галоўнай і ў пэўным сэнсе адзінай, вядучай і кантралюючай сілай, людская памяць назапасіла багата. Мастацкая літаратурная гісторыя ў многім займае тут авангарднае месца. І, як згадвалася, на выклік абставінам чалавек найбольш настройваўся падчас іх крытычнага ўскладнення. Натуральна, што ваенная тэма адкрывала і адкрывае на гэтых каардынатах перад пісьменнікамі шырокія прасторы для роздуму. А паразважаць тут ёсць над чым. У прыватнасці, праз выяўленне і тлумачэнне самой ідэі гуманізму як вельмі важнай грамадскай дамінанты.

### Куляшоў як экзістэнцыяліст

У межах хранатопу вайны і сустрэчы чалавека з неабходнасцю складанага жыццёвага і маральнага выбару беларускае мастацка-вобразнае слова ўмацоўвала значныя рубяжы нацыянальнай непаўторнасці, найперш абапіраючыся ў сувязі з гэтым на ўласныя эстэтычныя рэсурсы, але не пакідаючы ўбаку і цікавасць да некаторых сугучных тэндэнцый замежнай літаратуры, у прыватнасці тэндэнцый экзістэнцыялізму.

Найбольш радыкальнае крыло гэтага літаратурнага напрамку прыкметна ўмацоўвала свае тэарэтыка-метадалагічныя і эстэтычныя пазіцыі падчас вайны з фашызмам і ў першыя пасляваенныя гады. Чалавек ацэньваўся тут як тая духоўная сіла, што здольна выстаяць (ці ў рэшце рэшт даказаць нязломнасць коштам уласнага жыцця) у самых жорсткіх і цяжкіх экстрэмальных абставінах. Жан-Поль Сартр захапляецца, напрыклад, самаахвярнасцю,

> **«…разуменне прычыны чалавечага ўчынку — сур’ёзная аснова, каб глянуць на гэтага чалавека больш цёплым, гуманным, зацікаўленым, а можа нават і даравальным позіркам».**

стойкасцю і мужнасцю ўдзельнікаў французскага Супраціўлення і з вялікай павагай піша пра іх так: «Трэба памятаць, што большасць удзельнікаў Супраціўлення, нягледзячы на пабоі, катаванні, насуперак таму, што іх асляплялі, калечылі, палілі, так і не загаварылі. Яны разарвалі кола зла і даказалі чалавекам чалавечае для іх, для нас, для саміх іх мучыцеляў. І ўсё гэта адбывалася без сведкаў, без дапамогі, без надзеі... Яны маўчалі і з іх маўчання нараджаўся чалавек».

Безумоўна, Сартр не быў настолькі наіўным, каб не разумець, што і абставіны ў дачыненні да выяўлення і фарміравання чалавечага характару не нейтральныя. Бываюць жа і сапраўды ў гісторыі краін і народаў перыяды, якія патрабуюць ад чалавека і подзвігу, і нават самаахвярнасці, каб народ і краіна зноў маглі атрымаць страчанае і вярнуць ранейшую сілу зганьбаваным духоўным каштоўнасцям. Выяўляючы сваё захапленне самаахвярнасцю ўдзельнікаў Супраціўлення, Сартр тым самым хацеў сказаць, што чалавек высокага грамадзянскага абавязку, калі зямлю яго топча вораг, іначай паступіць і не мог, хоць тут ставілася на карту яго ўласнае жыццё.

Пэўныя (нават немалыя) праявы філасофіі і метадалогіі экзістэнцыялізму знаходзяць свой адбітак у паэме А. Куляшова «Сцяг брыгады». Буйным планам пісьменнік вылучае лінію актыўнага і мужнага самадэтэрмінантнага дзеяння. Яго галоўныя героі Алесь Рыбка і палкавы камісар Алесь Зарудны насуперак вялікім і найвялікшым перашкодам імкнуцца вырвацца з нямецкага акружэння, і гэта ім удаецца.

Народны характар твора быў у цэнтры разгляду многіх крытыкаў і літаратуразнаўцаў. У гэтым плане колькі-небудзь прыкметных ацэначных разыходжанняў не наглядалася. А вось у дачыненні да ацэначнай характарыстыкі аднаго з персанажаў паэмы Мікіты Ворчыка погляды разыходзяцца.

Дык хто ж ён такі, Мікіта Ворчык? Гэта радавы салдат-акружэнец, у нядаўнім часе наводчык гарматнага разліку, які крыху пазней разам са сваімі спадарожнікамі, камісарам Зарудным і Алесем Рыбкам, прабіваецца на ўсход, да сваіх. Мікіта Ворчык, як можна меркаваць, не быў палахліўцам на перадавой, знаходзіўся побач са смерцю — быў, як заўважае аўтар, «засыпан зямлёю». Ворчык не ўхіляецца ад цяжкасцей, калі спатрэбілася дапамога іх цяжкапараненаму таварышу, камісару Заруднаму. Разам з Алесем Рыбкам яны нясуць Заруднага па бездарожжы праз кустоўе і балацявіны, ратуючы таго ад гібелі і, безумоўна, звужаючы і паслабляючы межы ўласнай бяспекі. Але на пэўным этапе нервы ў яго, як кажуць, пачынаюць здаваць. Знаходзячыся паблізу ад роднай хаты, ён рашаецца пакінуць сваіх баявых сяброў і (што потым з’явіцца самай сур’ёзнай інкрымінацыяй яго віны) у спешцы і памылкова захоплівае чужую ватоўку з зашытым у ёй сцягам брыгады — важным, дарагім і шматзначным па законах ваеннага часу і ваеннага статуту сімвалам. Зарудны і Рыбка знаходзяць Ворчыка дома і тут жа выносяць яму вышэйшую меру пакарання.

Працяглы час гэты персанаж у крытыцы і літаратуразнаўстве праходзіў як слабы, маладушны чалавек і нават як здраднік. У раздзеле «Аркадзь Куляшоў», змешчаным у Гісторыі беларускай літаратуры, М. Арочка спрабуе такі погляд пахіснуць, заўважаючы, што «Ворчыка нельга па звычцы расцэньваць як здрадніка», бо ўлічваючы і суровую, патрабавальную атмасферу часу, і павышаную ролю ў такія перыяды самадэтэрмінантнай духоўнай сілы чалавека, нельга ўсё ж не браць пад увагу і тое, што зроблена гэтым чалавекам у папярэдні час ваеннага ліхалецця. А гэта, паводле слоў М. Арочкі, раўняецца «з сапраўдным воінскім подзвігам».

> **«…прыкладаў, калі самадэтэрмінацыя чалавека становіцца галоўнай сілай, людская памяць назапасіла багата. Мастацкая літаратурная гісторыя ў многім займае тут авангарднае месца».**

Такія, у чымсьці падобныя і рэзка супрацьлеглыя паводле свайго ацэначнага сэнсу, выказванні і меркаванні з’яўляюцца пераканальным сведчаннем таго, што А. Куляшоў на самым пачатку вайны 1941 — 1945 гг., не заўсёды разгортваючы ў сваёй паэме падзеі і з’явы ў шырокамаштабную сістэму мастацкага і псіхалагічнага малюнка (твор нясе выразныя жанравыя адзнакі дзённіка), змог паставіць, а недзе і натхніць пісьменнікаў, гісторыкаў, філосафаў, публіцыстаў на далейшае асэнсаванне балючай і тонкай праблемы «чалавек і абставіны» ў ваенны час.

### Пытанні без адказаў

Тое, *як гэта было* на самым пачатку вайны, з паэтам нельга не пагадзіцца. Тут ён шчыры і праўдзівы. А вось *як яно павінна было быць* на самай справе, пісьменніцкая і даследчыцкая думка дасюль не вызначалася. Пытанні нярэдка застаюцца для тых, хто іх паставіў, сур’ёзнай псіхалагічнай загадкай.

Такіх прыкладаў багата ў мастацкай літаратуры. Але мы лічым дастаткова лагічнай і характэрнай у межах нашай гаворкі спасылку на адзін з эпізодаў першых месяцаў вайны з успамінаў доктара філасофскіх навук А. І. Галаўнёва. «Хочацца мне расказаць, — піша ён, — аб адным выпадку, звязаным з лёсам чырвонаармейцаў і паўстаўшым перада мною тады пытаннем, на якое я не мог адказаць ні тады, ні цяпер. А сутнасць справы выглядала такой. 10 ці 15 жніўня 1941 года перад нашай

> **«А. Адамовіч прыкладае шмат захадаў, каб знайсці драбніцу чалавечнасці у тых, хто стаў на няправедны шлях, здрадзіў радзіме, пайшоў ва ўслужэнне ворагу».**

вёскай, ва ўсходняй яе частцы, немцы спынілі на прывал шматтысячную калону палонных чырвонаармейцаў, якая расцягнулася больш чым на кіламетр... Нашы вясковыя падлеткі і мы, хлопцы старшага ўзросту, а таксама жанчыны памчаліся на месца прыпынку гэтай калоны. Немцы, што суправаджалі палонных, нас не адганялі і нават не крычалі на нас. Больш таго, прасілі ў жанчын прынесці ім «шпік» ці «яйкі» (у першыя месяцы вайны такая ўяўная, штучная «карэктнасць» з боку немцаў часам наглядалася. — **В. Ж.**).

Убачыўшы гэту карціну, я падумаў: што здарылася, што ж гэта адбылося, чаму адны, трапіўшы ў акружэнне і не пакідаючы зброю, прарываюцца на ўсход, каб злучыцца з Чырвонай Арміяй і працягваць барацьбу за свабоду сваёй Радзімы, а іншыя, пакінуўшы зброю, спакойна ідуць у лагер ваеннапалонных. Назіраючы за палоннымі і іх канваірамі, а апошніх было пяцьсем чалавек і ішлі яны ў асноўным упераздзе калоны, мне здавалася, што палонныя маглі б дамовіцца, раззброіць канваіраў і разбегчыся. А яны толькі набівалі за пазуху бульбу (побач з прывалам было бульбяное поле) і ішлі спакойна ў лагер на смерць. Ні адзін з іх не павярнуў за вугал якога-небудзь хлява. Чаму? І хто ў гэтым вінаваты?».

Вучоны спыніўся перад адказам на пастаўленыя ім пытанні, і яго цяжка ў гэтым папракнуць. Ён выходзіў, трэба меркаваць, з таго, што было б несправядліва ва ўзнаўленні аб’ектыўнай ісціны паспешліва, агулам абвінаваціць гэтых людзей і выступаць у абвінаваўчай ролі суддзі ці пракурора. Неправамернай выглядала б тут, канечне, і цалкам апраўдальная ацэнка ўсяго шматаблічча калектыўна палонных, якія не ў такіх ужо безвыходных для іх абставінах не прыклалі адпаведных намаганняў для вызвалення хоць бы ўласнага жыцця. У гэтай драматычна-трагедыйнай віхуры падзей Вялікай Айчыннай вайны і сапраўды яшчэ нямала «белых плям» і шмат нявырашаных ці недастаткова асэнсаваных пытанняў.

### Карнікі і «прэзумпцыя невінаватасці»

Трэба прызнаць, аднак, і тое, што мастацкая літаратура, многае яшчэ не адолеўшы ў складанай сістэме раскрыцця ўзаемасувязей матыву і ўчынку чалавека на вайне, і ў прыватнасці таго чалавека, што па нейкіх прычынах заблытаўся, разгубіўся і страціў ідэалагічныя і маральна-этычныя арыенціры, на шэрагу іншых напрамкаў яго паказу выйшла на даволі высокі ўзровень аб’ектыўнасці і псіхалагічнай глыбіні. І дасягнуць ёй удалося гэта шмат у чым дзякуючы таму, што чалавеку дазволілі

# разуменне дараванне









свабодна выказацца, выслухалі яго, узмацнілі ў дачыненні да яго прымяненне традыцыйна-гуманістычных законаў і прынцыпаў юрыспрудэнцыі — «прэзумпцыі невінаватасці».

Характэрны прыклад — кніга А. Адамовіча «Карнікі». Сама назва твора настройвае чытача на адпаведны лад успрымання і ацэнак яе персанажаў. Аднак аўтар не разлічвае на тое, што чытач апрыёры, не надаўшы колькі-небудзь важнага значэння такому стрымліваючаму фактару, як «прэзумпцыя невінаватасці», тэндэнцыйна настроіцца на абвінавачы лад.

А. Адамовіч прыкладае шмат цікавых эстэтычных і публіцыстычных захадаў, каб знайсці хоць нейкую драбніцу чалавечнасці нават у тых, хто стаў на няправедны шлях, здрадзіў радзіме, пайшоў ва ўслужэнне ворагу. А раптам і ў гэтых людзей знойдуцца нейкія важкія аргументы ў сваю абарону?! А можа, нехта з іх толькі часова заблытаўся ў віхуры вайны, а цяпер ачомаўся, настойліва шукае выхаду з такога становішча і мае вострую патрэбу ў дапамозе? Вельмі эфектыўную функцыю ў псіхалагічных паваротах аўтарскай думкі да раскрыцця такіх пытанняў выконваюць у названай кнізе ўнутраныя маналогі, якія знаходзяцца ў цеснай кампазіцыйнай спалучанасці з публіцыстычным словам.

Пісьменнік, як можна зразумець, настройваючы чытача на хвалю ўнутранага голасу персанажаў рамана «Карнікі», хацеў бы, каб той улічваў, што сілы чалавека не бязмежныя і не заўсёды адэкватныя цяжару і складанасцям абставін, а таму трэба быць надзвычай асцярожным і непаспешлівым у падыходах разгляду яго віны.

Самой разрадкай мастацкага тэксту ён завастрае, напрыклад, нашу ўвагу на трагічным лёсе палоннага савецкага салдата ў канцэнтрацыйным лагеры: «*Гэта гоняць палонных, гэта працуюць палонныя! Забілі палоннага, шэрым шынельным камяком ляжыць на ўзбочыне... Нечалавечы змарнелыя, нейкія іржавыя — гэта мы! З жаночымі вялізнымі вачыма — гэта мы!*» Пісьменнік, як відаць, закладвае ў падтэкст думку пра тое, што не ўсе мы ў належнай меры бываем упартымі і мужнымі перад наступам немінучай бяды і смяротнай небяспекі. Шматзначны запытальны сэнс нясе ў сабе разгорнутая мастацкая дэталь — памерлыя ад голаду і нечалавечых умоў палонныя «з жаночымі вялізнымі вачыма». Падтэкставую сутнасць пытанне выяўляе досыць адкрыта: а можа, мы, мужчыны, бывалі ці бываем па-жаночы мяккімі, лагоднымі там, дзе патрабуецца мужчынская стойкасць, мужнасць і непахіснасць? Аднак пытанне не перарастае ў асуджэнне палоннага салдата. Наадварот, у гэтым выпадку і ў іншых падобных эпізодах і сітуацыях мастацка-публіцыстычнага тэксту кнігі А. Адамовіч паслядоўны і настойлівы ў пошуку аргументаў пэўнага змякчальнага характару, хоць пазней, дэталёва ўзважыўшы ўсе «за» і « супраць», ён неаднойчы мусіць прызнаваць, што і спачувальны прынцып адносін да чалавека як галоўнае і асноўнае маральна-этычнае крэда мае ўсё ж мяжу спачувальнасці. На думку пісьменніка, чалавек, апынуўшыся і ў самых складаных варунках жыцця, найперш павінен «браць на сябе адказнасць» і не спяшацца перакладваць цяжар адказнасці на кагосьці іншага.

## КОЛАСАЎСКІ ГУМАНІЗМ

Шырэйшым і глыбейшым позіркам глянуць на гэтыя праблемы, безумоўна, дапамагаюць нам паэмы Якуба Коласа «Суд у лесе» (1942) і «Адплата» (1943 — 1944), якія ствараліся на сумежжы часу з паэмай А. Куляшова «Сцяг брыгады» і з якімі ў нашага класіка заўважаюцца як агульна-тыпалагічныя, так і адметныя (дзесьці, можа, і дыскусійна-палемічныя) праявы дыялагічнага перагукання. Многімі сваімі прыкметамі коласаўская паэма збліжаюцца і з вядучай нотай публіцыстычнасці ў літаратуры пра вайну перыяду 1941 — 1945 гг. Здаецца, уся энергетыка аўтарскай думкі падпарадкаваная таму, каб падбадзёрыць чытача, падвысіць яго настрой, дапамагчы яму паверыць у свае сілы, не даць разгубіцца перад узброеным захопнікам і яго адданымі паслугачамі. Для характарыстыкі тых і другіх ён не шкадуе не толькі вострага, але і рэзкага сатырычнага, абразлівага слова: «фашыскі смурод», «фашыская дрэнь», «падаль прадажная» і інш. Тут відавочна моўна-стылёвае судакрананне і перагукванне з купалаўскім вершам «Беларускім партызанам», публіцыстычнымі артыкуламі і асобнымі творамі К. Чорнага, М. Лынькова, К. Крапівы, А. Фадзеева, М. Шолахава і, безумоўна, з паэмай А. Куляшова «Сцяг брыгады».

Аднак знойдзе, заўважыць чытач у паэмах «Суд у лесе» і «Адплата» і нешта своеасаблівае, коласаўскае. Вядома, тут мы маем не той класічны ўзровень мастацкасці, які дасягаецца аўтарам у паэмах «Новая зямля», «Сымон Музыка», рамане-трылогіі «На ростанях», у многіх вершах і апавяданнях. Але і ў гэтых творах Я. Колас не адсоўвае гуманістычны прынцып на задні план і знаходзіць таленавітыя мастацкія способы і прыёмы, каб тэкстам, а найбольш падтэкстам пераканаць чытача ў неабходнасці неаслабнага, настойлівага пошуку прычын і матываў, што знаходзяцца ў аснове побытавых і грамадскіх дзеянняў і памкненняў чалавека.

Якуб Колас кіруецца тым, што разуменне рэальнай прычыны чалавечага ўчынку з'яўляецца сур'ёзнай асновай, каб глянуць на гэтага чалавека больш цёплым, гуманным, зацікаўленым, а можа нават і даравальным позіркам. Нездарма ў шырокім ужытку маюць месца амаль адлітыя ў прымаўку словы: зразумець — значыць дараваць. І сапраўды, колькі людскіх лёсаў магло б скласціся іначай і абмінуць трагедыйныя рыфы жыцця, калі б у цяжкі для чалавека час на яго шляху сустрэўся нехта мудры, смелы і добразычлівы, здольны зразумець і не даць здзейсніцца несправядлівасці.

Персанажу паэмы Я. Коласа «Адплата» Цімоху ў гэтым сэнсе пашанцавала. Ён з той няўстойлівай, хісткай і палахлівай «пароды» людзей, што схільныя больш прыстасоўвацца да абставін, чым перарабляць іх ці супрацьдзейнічаць ім. Такія людзі ў крытычныя моманты лёгка перабягаюць на бок мацнейшага. Памкнуўся стаць на такі шлях, хоць і не без вонкавага прымусу, і прыстасавацца да так званага «новага парадку» і Цімох. Яму было строга загадана высачыць і дапамагчы гестапа схапіць партызанскага камандзіра. Загад гэты ён не выканаў, бо пачаў пакрысе ўсведамляць, што пераступае нейкую важную мяжу агульналюдскага закону. Цімох, можна сказаць, па сваёй волі прыходзіць у партызанскі атрад з раскаяннем і «людзям адкрыта прызнаўся», што меў на пачатку намер супрацоўнічаць з ворагам і нейкі час супрацоўнічаў — знаўся з адданым паслугачом акупацыйнай нямецкай улады.

Пісьменнік не з'яўляецца прыхільнікам абсалютнай рэабілітацыі гэтага персанажа толькі таму, што той сам, без прынукі, прыйшоў у партызанскі атрад і адкрыта ва ўсім павініўся. Не тыя былі часы, каб з ходу ды яшчэ ў партызанскім атрадзе ісці на паспешлівы давер. Пісьменнік прызнае ў многім слушнымі галасы той часткі партызан, што былі «згодныя на пакаранне» Цімоха.

Аўтар запрашае, аднак, вельмі ўважліва выслухаць і тых, хто знаходзіць, што адкрытае прызнанне чалавекам сваёй віны, падмацаванае пэўным чынам канкрэтнымі дзеяннямі, жаданнем асудзіць самога сябе за ранейшыя памылкі, не можа не ўлічвацца пры вырашэнні яго лёсу нават у напружаных, складаных абставінах, якія вымушалі людзей быць надзвычай асцярожнымі. Партызанскі сход пасля доўгай палемічнай гаворкі і ўліку ўсіх «за» і «супраць» прымае рашэнне адпусціць Цімоха, хоць пэўны недавер да гэтага чалавека ў партызан, відаць, застаецца.

Якуб Колас не настройвае чытача на ўсёдаравальна-альтруістычны ў адносінах да персанажа пагляд. Але асноўны ход мастацкай думкі пісьменнік падводзіць усё ж да вываду, *што толькі праз давер да чалавека і захаванне аддаленых ад кан'юнктурнага інтарэсу прынцыпаў пралягае вялікая дарога да праўды і справядлівасці.* Іншай альтэрнатывы тут аўтар не бачыць і, як вынікае з твора, гэтую дарогу, занядбаўшы агульначалавечы, гуманістычны досвед, лёгка можна «згубіць», «к праўдзе і волі з рук выпусціць ніцьˮ і наогул страціць арыенціры і заблудзіцца ў «цёмным паходзе». Гэтыя словы Якуба Коласа найперш прачытваюцца ў кантэксце канкрэтнага ваеннага перыяду, калі яны былі сказаны і напісаны. Уяўляецца, што сваім праблемным гуманістычным сэнсам думка нашага класіка звернута і ў перспектыву *малога* і *вялікага* гістарычнага часу.

**Васіль ЖУРАЎЛЁЎ**

# Клопат пра культуру — клопат пра духоўнасць

Гомельская вобласць — рэгіён з вялікім эканамічным і культурным патэнцыялам, багаты на таленавітых і цікавых людзей. Менавіта духоўныя далягляды і сталі тэмай гутаркі з намеснікам старшыні Гомельскага аблвыканкама Віктарам ТРЫЗНО.



**— Віктар Міхайлавіч, чаму, на вашу думку, сёння важна клапаціцца пра культуру, літаратуру, мастацтва? Ці маеце вы асабістыя прыхільнасці сярод беларускіх аўтараў?**

— Клапаціцца пра культуру, літаратуру і мастацтва, пра захаванне гісторыка-культурнай спадчыны краю — гэта значыць клапаціцца пра духоўнае здароўе кожнага, хто жыве на яго зямлі. Гэта і тое, без чаго мы не зможам выхаваць грамадзяніна-патрыёта, руплівага працаўніка, клапатлівага сем'яніна, творчую і духоўна багатую асобу. Кіраўнікі органаў улады павінны спрыяць пашырэнню духоўнай прасторы — усе разам і кожны паасобку. Для гэтага на Гомельшчыне распрацавана шмат спецыяльных праграм, якія прадугледжваюць рэстаўрацыю аб'ектаў архітэктуры, памнажэнне музейных фондаў, распрацоўку забеспячэння турыстычных маршрутаў. Нельга пераацаніць і ролю літаратараў у культурным жыцці вобласці.

Наша зямля дала славянскай культуры шмат імёнаў, якімі мы па праве ганарымся. На творах Івана Мележа, Івана Шамякіна, Андрэя Макаёнка, Івана Навуменкі і іншых пісьменнікаў выхавана не адно пакаленне беларусаў. Гэтыя літаратары паспрыялі развіццю і майго літаратурнага густу.

Мне вельмі падабаецца паэзія Анатоля Грачанікава, які так рана пайшоў з жыцця. Як мне здаецца, яго творчасць на сённяшні дзень разгледжана і ацэнена недастаткова. Аднак для нас, яго землякоў і паслядоўнікаў, гэта ніколькі не змяншае значнасці асобы паэта і яго ўкладу ў беларускую літаратуру. І мне вельмі прыемна, што наша аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі нагадвае нам пра выдатнага літаратара, а сёлета нават заснавала спецыяльную літаратурную прэмію ў яго гонар. Імпануе мне і творчасць нашага земляка, выдатнага паэта Міколы Мятліцкага.

Я ўважліва сачу за літаратурным працэсам у вобласці. Радуе, што з'яўляюцца новыя высокамастацкія творы. Найбольшых поспехаў дасягнулі апошнім часам дзіцячы паэт Яўген Калашнікаў, празаік Уладзімір Гаўрыловіч, драматург Васіль Ткачоў, паэты Міхась Болсун, Ніна Шклярава, маладая паэтэса Іна Спасібіна і многія іншыя.

**— Адметнасцю рэгіёна сталі славутыя гомельскія «Літаратурныя дажынкі». Як узнікла ідэя іх правядзення? Хто займаецца арганізацыяй?**

— Так, на Гомельшчыне сталі добрай традыцыяй літаратурныя вечары, паэтычныя конкурсы, «круглыя сталы», майстар-класы, якія знаёмяць маладое пакаленне з творчасцю і ўжо вядомых класікаў беларускай літаратуры, і маладых аўтараў. «Літаратурныя дажынкі», а пасля «Славянскія літаратурныя дажынкі» — адно з найбуйнейшых мерапрыемстваў, якія праводзяцца Гомельскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі з 2007 года пры падтрымцы мясцовых улад. Ідэя належыць непасрэдна кіраўніку аддзялення Уладзіміру Гаўрыловічу. Накіравана яно на выяўленне, падтрымку і развіццё здольных да творчасці прадстаўнікоў моладзі, папулярызацыю беларускай літаратуры. Спачатку гэта было маленькае свята, якое паступоваператварылася ў фэст міжнароднага гучання.

Сёлета, напрыклад, свята доўжылася чатыры дні. Геаграфія яго ўдзельнікаў і гасцей пашыраецца з кожным годам. Каб падзяліцца сваімі творчымі здабыткамі, у Гомель прыязджаюць прадстаўнікі літаратурных саюзаў Масквы, Бранска, Чарнігава, Курска, Сумаў і іншых гарадоў краін СНД. Традыцыйна аддзяленне СПБ выдае абласны альманах «Літаратурная Гомельшчына», падводзіць вынікі літаратурных конкурсаў, у якіх бяруць удзел як сталыя сябры Саюза пісьменнікаў, так і моладзь, адбываецца ўшанаванне пераможцаў і знаёмства з іх творамі. Мерапрыемствы ладзяцца ў розных аўдыторыях, але абавязкова ў абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна і гарадской імя Герцэна. Сёлета «дажынкавыя» дні прайшлі таксама на Радзіме лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Анатоля Грачанікава, у вёсцы Шарпілаўка Гомельскага раёна. Літаратары завіталі і ў Чырвонабярэжскі аграрны каледж, наведалі Жлобін — сталіцу рэспубліканскіх дажынак-2013, выступілі перад чытачамі, усклалі кветкі на магілу свайго калегі Аляксандра Капусціна. Канечне, самім пісьменнікам складана было ажыццявіць такі праект, які стаў, па сутнасці, брэндам Гомельскай вобласці. Ініцыятыва была падтрымана аблвыканкамам, гарадскім і раённымі выканкамамі, кіраўнікамі прадпрыемстваў і арганізацый. Але дзякуючы гэтаму фэсту культурнае жыццё Гомельшчыны становіцца больш яркім, насычаным і цікавым.

**— У 2013-м зроблены яшчэ адзін важны крок у справе падтрымкі творцаў: зацверджана літаратурная прэмія аблвыканкама...**

— Гэта, як вы разумееце, адбылося не само па сабе. Заснаванню літаратурнай прэміі папярэднічала немалая праца творцаў з Саюза пісьменнікаў Беларусі. Так, з 2007 па 2012 год Гомельскім аддзяленнем праводзіўся абласны конкурс імя Кірылы Тураўскага. За гэты час у ім паўдзельнічала больш як 600 прафесійных і маладых літаратараў вобласці. У Год кнігі адбылася знакавая сустрэча актывістаў аддзялення СПБ са старшынёй абласнога выканаўчага камітэта Уладзімірам Дворнікам. Гаворка ішла ў тым ліку і пра далейшае развіццё конкурсу імя Кірылы Тураўскага, падтрымку ў выданні яркіх твораў сучасных беларускіх літаратараў-гамяльчан. У мэтах рэалізацыі Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб падтрымцы Саюза пісьменнікаў Беларусі» Гомельскім аблвыканкамам было прынята рашэнне падтрымаць пісьменнікаў рэгіёна, якія працуюць над рэалізацыяй дзяржаўнай палітыкі ў галіне культуры. І ў развіццё шматгадовага конкурсу заснавана Літаратурная прэмія імя Кірылы Тураўскага, якая з 2013 года прысуджаецца пераможцам конкурсу рукапісаў. Ад сучасных майстроў слова патрабуецца стварыць яскравы твор пра родны край і сваіх землякоў, прапагандаваць традыцыйныя каштоўнасці, культуру роднай зямлі. Пра дэмакратызм конкурсу сведчыць тое, што ён адкрывае шлях у літаратуру тым, хто толькі заяўляе пра сябе. У пачаткоўцаў і ва ўсіх жадаючых ёсць шанц перамагчы ў намінацыі «Адкрыццё года».

І вось першая літаратурная прэмія ўручана. Перамаглі годныя аўтары, чые творы, можна сказаць, напісаны сэрцам. Пераможцы атрымалі прэмію ў памеры 30 базавых велічынь і выдадзеныя кнігі, за кошт бюджэтных крыніц. Зроблена гэта найперш для таго, каб падтрымаць сапраўдныя таленты, паспрыяць стварэнню высокамастацкіх твораў пра нашу зямлю і яе людзей.

**— Віктар Міхайлавіч, а як супрацоўніцтва з творцамі ўплывае на ідэалагічную працу ў рэгіёне? Як самі пісьменнікі працуюць у звязцы з ідэалагічнымі работнікамі, бібліятэкамі, установамі адукацыі?**

— Лічу, што нашы літаратары выконваюць значную ролю ў культурных зносінах Гомельшчыны, у ідэалагічнай сферы. Яны актыўна сустракаюцца з чытачамі, сумесна з бібліятэчнымі работнікамі праводзяць творчыя акцыі, шмат чаго робяць для рэалізацыі на практыцы славянскага адзінства праз сумесныя праекты з літаратарамі Расіі і Украіны, клапоцяцца пра моладзь.

Савет аддзялення СПБ штогод распрацоўвае План прапаганды беларускай літаратуры і чытання на тэрыторыі вобласці, які ўзгадняецца з аблвыканкамам і рэалізуецца сумесна з ідэалагічнымі работнікамі, бібліятэкамі, установамі адукацыі. Літаратары часта выязджаюць у рэгіёны, дзе не толькі прапагандуюць мастацкае слова, падтрымліваюць творчую моладзь і такім чынам удзельнічаюць у рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў галіне культуры. Напрыклад, аддзяленне літаратурнай арганізацыі рэгулярна праводзіць конкурс юных чытальнікаў «Захаваем свет разам» пры падтрымцы ўпраўлення адукацыі. Конкурс ладзіцца ў тры этапы — школа — раён — вобласць, дорыць падлеткам і юнакам сустрэчы з любімымі пісьменнікамі, творы якіх яны выбралі для мастацкага чытання. Варта адзначыць, што члены Саюза пісьменнікаў Беларусі ахвотна адгукаюцца на ўсе грамадскія падзеі, бяруць удзел у розных фестывалях і канцэртах. І ў канцэртных праграмах у дзень выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў яны таксама будуць занятыя.

**— У краіне праводзіцца аптымізацыя ўстаноў культуры. На ваш погляд, як гэты працэс паўплывае на якасць задавальнення інфармацыйных і культурна-дасугавых запатрабаванняў жыхароў, асабліва ў вёсцы?**

— Так, працэс аптымізацыі сеткі ўстаноў культуры праходзіць і ў нашым рэгіёне. Толькі ў 2013 годзе з улікам асаблівасцей дэмаграфічнай сітуацыі і эфектыўнасці выкарыстання бюджэтных сродкаў перасталі працаваць 44 установы: 22 бібліятэкі (з 653) і 22 клубы (з 644). Аднак мы імкнёмся не столькі зачыніць, колькі знайсці самыя эфектыўныя шляхі аптымізацыі. Так, вядзём аб'яднанне школьных і публічных сельскіх бібліятэк — на сённяшні дзень у вобласці функцыянуе 54 аб'яднаныя установы, — ствараем установы культуры змешанага тыпу: бібліятэка-клуб і клуб-бібліятэка: у рэгіёне ўжо дзейнічае 71 такая установа — 32 клубы-бібліятэкі і 49 бібліятэк-клубаў. Таксама пашыраем сеткі мабільных бібліятэк і клубаў: у вобласці працуюць 22 аўтаклубы і 10 бібліёбусаў, а ў двух раёнах Гомельшчыны для абслугоўвання чытачоў маланаселеных пунктаў задзейнічаны дадатковыя адзінкі транспарту.

Наша прынцыповая пазіцыя ў пытаннях аптымізацыі сеткі ўстаноў культуры наступная: усе змены, якія адбываюцца ў галіне, ніякім чынам не павінны адбіцца на якасці задавальнення інфармацыйных і культурна-дасугавых запатрабаванняў жыхароў, у першую чаргу сельскіх населеных пунктаў. Сёння чытачамі сельскіх бібліятэк з'яўляюцца каля 200 тысяч чалавек, удзельнікамі клубных фарміраванняў у сельскай мясцовасці — больш як 30 тысяч чалавек, з іх 16 350 — дзеці. Рэарганізуючы бібліятэку ці клуб, мы павінны выразна сабе ўяўляць, што ж прыйдзе ім на змену. Інфармацыйны і культурны вакуум у дадзеным выпадку недапушчальны. Калі дзейнічаць зладжана і прымаць узважаныя рашэнні, можна дасягнуць максімальнага выніку — сфарміраваць такую сетку ўстаноў культуры, якая б адпавядала патрабаванням сённяшняга дня і ў поўнай меры рэалізавала задачы выхавання падрастаючага пакалення, захавання і папулярызацыі культурнай спадчыны рэгіёна і краіны.

**— Гомельская бібліятэчная сістэма традыцыйна шмат увагі надае рэспубліканскім літаратурным выданням. Якім вы бачыце працяг гэтага плённага супрацоўніцтва?**

— Вы маеце рацыю. Бібліятэчная сістэма вобласці на працягу шэрагу гадоў цесна супрацоўнічае з Саюзам пісьменнікаў Беларусі, беларускімі выдавецтвамі і перыядычнымі выданнямі. Адным з прыярытэтных кірункаў у дзейнасці публічных бібліятэк рэгіёна з'яўляецца папулярызацыя лепшых узораў беларускай літаратуры, творчасці як беларускіх класікаў, так і сучасных аўтараў. Бібліятэкамі вобласці ў цесным партнёрстве з Гомельскім аддзяленнем СПБ праводзяцца прэзентацыі кніг, творчыя вечары, юбілеі. Вынік гэтай важнай працы — павышэнне цікавасці да творчасці сучасных беларускіх аўтараў. Пра гэта сведчаць і лічбы: у 2013 годзе на 500 асобнікаў больш, чым у 2012-м, набыта рэспубліканскіх літаратурных выданняў для публічных бібліятэк. Упэўнены, супрацоўніцтва бібліятэк, Саюза пісьменнікаў Беларусі і рэспубліканскіх літаратурных выдавецтваў будзе працягнута і ў далейшым, бо гэта паспрыяе развіццю літаратурнага працэсу ў нашым рэгіёне і беларускай літаратуры ў цэлым. І, канечне ж, нам бы хацелася, каб на старонках рэспубліканскіх літаратурных выданняў друкавалася больш пісьменнікаў-гамяльчан!

**Дзяніс ІВАНОЎ**

*Форум-2014*

# Як вада, як паветра

**Пра шляхі развіцця дзіцячай літаратуры, пісьменніцкія і мастакоўскія прыёмы, якія, безумоўна, зацікавяць маленькага чытача, запатрабаванасць жанраў, стыляў на гэтым яскравым і разнастайным рынку можна разважаць бясконца. Але якімі б рознымі ні былі погляды суразмоўцаў — удзельнікаў рэальнай ці віртуальнай дыскусіі, нельга сцвярджаць, што хтосьці з іх памыляецца. Кожны з нас быў калісьці маленькім, гартаў першую кніжку, знаёміўся з новымі гісторыямі, пад яркімі вокладкамі знаходзіў новых сяброў. Амаль кожны мае сёння маленькіх дзяцей, пляменнікаў, унукаў, суседзяў, якіх таксама імкнецца зацікавіць кнігай.**



*Фота Кастуся Дробава*

*Падчас міжнароднага «круглага стала» выступае літоўскі пісьменнік Яронімас Лаўцюс.*

Вось і падчас міжнароднага «круглага стала», арганізаванага Выдавецкім домам «Звязда» ў межах XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, удзельнікі, з аднаго боку, закраналі зусім розныя тэмы, з іншага ж, гаварылі пра галоўнае — шлях дзіцячай кнігі да чытача. Таму не дзіўна, што выказванні пісьменнікаў, выдаўцоў, перакладчыкаў, што прагучалі ў межах сустрэчы, значна адрозніваючыся, усё ж засяроджваліся на галоўнай тэме імпрэзы «Свет дзяцінства: погляд у будучыню». У якасці мадэратара імпрэзы выступіў першы намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда», пісьменнік Алесь Бадак. Ва ўступным слове Алесь Мікалаевіч зазначыў:

— Дзіцячая літаратура — адзін з самых значных жанраў. У той жа час яна — вялікая загадка, пра яе разважаць вельмі цікава, але і вельмі складана. Гэта як паветра. Традыцыі выдання кніг для дзяцей у новай беларускай літаратуры вельмі багатыя. Узяць хаця б пачатак XX ст.: у 1906 годзе ў нас выйшла «Першае чытанне для дзетак беларусаў» Цёткі. Праз некалькі гадоў пабачыла свет «Другое чытанне для дзяцей беларусаў», аўтарам якога быў Якуб Колас. Любімыя вершы і казкі многія з нас памятаюць з самага дзяцінства. Да прыкладу, прыгадаю коласаўскія радкі: «*Не сядзіцца ў хаце хлопчыку маломму: / Кліча яго рэчка, цягнуць санкі з дому*» ці верш Янкі Купалы «Хлопчык і лётчык». Сёння ў айчыннай сістэме кнігавыдання таксама значны акцэнт робіцца на творах для дзяцей. У ліку новых значных праектаў варта назваць серыю «Казкі славянскіх народаў» Выдавецкага дома «Звязда», у межах якой не так даўно выйшла першая кніга «Падарунак ад усяго сэрца». Пад вокладкай гэтага выдання сабраны беларускія, рускія, украінскія, балгарскія, польскія, македонскія, сербскія, харвацкія казкі.

У працэсе рэалізацыі выдавецкага праекта для дзяцей дарослы чалавек можа выконваць розныя функцыі: быць аўтарам, рэдактарам, перакладчыкам… Натуральна, ён можа ўплываць на тое, як у выніку будзе выглядаць кніга. Але самае важнае, што і аўтар, і рэдактар, і перакладчык у першую чаргу застаюцца чытачамі. Кожны раз, працуючы над дзіцячай кнігай, яны нібыта здзяйсняюць падарожжа ў сваё маленства, нібыта самі ў сябе пытаюцца: «А як маленькі я ўспрыняў бы гэтую казку, апавяданне, верш?» Менавіта на такі аспект працы над кнігай для дзяцей звярнуў увагу доктар філалагічных навук прафесар Іван Чарота, які з'яўляецца ўкладальнікам выдання «Падарунак ад усяго сэрца»:

— Праца над гэтай кнігай не мае свайго абазначанага пачатку. Бо менавіта казкі сталі першымі творамі, з якімі я пазнаёміўся ў дзяцінстве. Для мяне, тады яшчэ маленькага вясковага хлопчыка, які браў кнігі з бібліятэкі, перш за ўсё праз казкі адбывалася пашырэнне гарызонтаў светаўяўлення. Цудоўныя творы распавядалі, што свет багаты, разнастайны, а ў кожнага народа ёсць свая сістэма бачання і разумення гэтага свету. Імкненне прадставіць духоўнае, інтэлектуальнае багацце славянскіх народаў з'яўляецца і мэтай новага выдання.

## ДЗІЦЯ ЖЫВЕ Ў КОЖНЫМ

З новымі кнігамі для дзяцей, што выдаюцца ў нас у краіне ды ў суседняй Расіі, чытач збольшага знаёмы. А што адбываецца ў літаратурах іншых дзяржаў постсавецкай прасторы? Як яны выбудоўваюць сваю працу па выхаванні новага пакалення праз знаёмства з выдатнымі творамі сучаснікаў? Менавіта на гэтыя пытанні адказвалі замежныя ўдзельнікі «круглага стала», якія ўжо многа гадоў з'яўляюцца не проста гасцямі кірмашу, але і добрымі сябрамі, партнёрамі беларускіх выдаўцоў.



**Эдвард Мілітанян, Арменія:**

— Я вельмі люблю разважаць пра дзіцячую паэзію, дзіцячую літаратуру ў цэлым, бо і сам шмат гадоў пішу для дзяцей. Не ведаю, чаму, але мне падаецца, што ў кожным дарослым чалавеку жыве маленькі хлопчык ці дзяўчынка. На жаль, у нас у Арменіі зменшылася колькасць пісьменнікаў, якія пішуць для дзяцей, асабліва мала аўтараў, якія працуюць у галіне падлеткавай літаратуры. У Саюзе пісьменнікаў Арменіі працуе асобная секцыя дзіцячай літаратуры, куды ўваходзяць толькі каля двух дзясяткаў аўтараў, яе ўзначальвае мая жонка, галоўны рэдактар дзіцячага часопіса «Ластаўка». Я лічу, што не кожны пісьменнік можа добра пісаць для дзяцей. Да прыкладу, у армянскай літаратуры за апошнія сто гадоў можна назваць толькі пяць-шэсць сапраўды знакавых аўтараў, якія прысвяцілі сваю творчасць дзецям.

Але ёсць у нашай літаратуры і станоўчыя тэндэнцыі. Мне вельмі падабаецца, што праца многіх выдаўцоў сёння скіравана на пераклад твораў розных літаратур. Думаю, варта падтрымаць гэтую ідэю, бо для развіцця і ўзбагачэння нацыянальных літаратурных традыцый маюць важнае значэнне не толькі нашы творы, але і пераклады з розных моў краін СНД. Да прыкладу, у Арменіі ўжо цяпер існуе асобны выдавецкі праект па падрыхтоўцы перакладаў казак розных народаў. І гэта выдатна, бо ўсе казкі падобныя. Яны грунтуюцца на фантазіі, дабрыні, гумары, і менавіта гэтыя рысы, а не чыстая дыдактыка, дапамогуць выхаваць дзяцей.

**Яронімас Лаўцюс, Літва:**

— Я многа пісаў для дзяцей, чвэрць стагоддзя таму стаў галоўным рэдактарам часопіса «Зорачка», пазней нарадзілася і выдавецтва «Тры зорачкі». Мне вельмі прыемна, што мае кнігі выходзяць у Беларусі ў перакладзе на беларускую і рускую мовы. Асабліва значна, што першым сумесным праектам стала мая «Азбука бяспекі», яна пабачыла свет некалькі гадоў таму ў Выдавецкім доме «Звязда». Літоўскі народ не такі вялікі, і нашу мову ведаюць таксама нямногія, пераклады ж маюць магчымасць займець намнога большую аўдыторыю, чым арыгіналы. Але гэта адзін бок. Іншы бок — магчымасць сябраваць з пісьменнікамі і выдаўцамі з розных краін, абменьвацца ідэямі, адчуваць адзін аднаго.



**Чынгіз Аліаглу, Азербайджан:**

— Гадоў 30 таму мяне жонка ўшчувала, што я вельмі мала часу праводзіў з нашымі дзецьмі. Яна мела рацыю, бо я тады працаваў галоўным рэдактарам самага буйнога дзяржаўнага выдавецтва краіны, на працу ішоў рана, вяртаўся позна, шмат часу патрабавала ўласная творчасць… Але і я пэўным чынам спрычыніўся да выхавання дзяцей праз літаратуру. Пачаў з таго, што выпрашыў пераклаці на армянскую мову творы Самуіла Маршака, Агніі Барто, Сяргея Міхалкова, іншых вядомых дзіцячых аўтараў. У нашым выдавецтве выйшаў і 50-томнік сусветнай дзіцячай літаратуры ў 53 кнігах. Кожная з кніг мела тыраж 40 тысяч асобнікаў. Я ганаруся тым, што гэта быў мой праект. Пазней прыступілі і да выдання зборнікаў міфаў, казак і легенд народаў свету. Безумоўна, кніга адыгрывае важную ролю ў выхаванні маладога чалавека. І сёння пісьменнікам, якія пішуць для дарослых, варта не забываць пра дзяцей.



**Ато Хамдам, Таджыкістан:**

— Я таксама часам пішу дзіцячыя п'есы, казкі. Дарэчы, адна з маіх казак нават перакладзена на сем моў свету, у тым ліку і на беларускую. А некалькі гадоў таму выйшаў асобны зборнік маіх твораў для дзяцей. У Саюзе пісьменнікаў Таджыкістана таксама паспяхова працуе секцыя дзіцячай літаратуры. А летась па ініцыятыве прэзідэнта нашай дзяржавы было створана новае выдавецтва «Дзіцячая літаратура», дзе паспяхова рэалізоўваецца досыць шмат праектаў. Але і ў Мінск я сёлета завітаў не з пустымі рукамі. За досыць кароткі час мы пераклалі на таджыкскую мову і выдалі асобнай кнігай дзіцячую аповесць Алеся Бадака.

## З ІНШАГА БЕРАГА

І сапраўды, у дзіцячай літаратуры сёння назіраюцца цалкам станоўчыя працэсы: выходзяць яркія кнігі, выдатна афармленыя ў сучасным стылі, з'яўляюцца новыя імёны, рэалізоўваюцца шматгранныя міжнародныя праекты. Але такая карціна вымалёўваецца толькі з боку выдаўца. А як жа чытач? Ці зацікаўленыя сучасныя дзеці кнігамі? Ці існуюць дадатковыя спосабы прывабіць іх увагу да літаратурных твораў? На гэтыя пытанні ўдзельнікі «круглага стала» таксама спрабавалі знайсці адказы.

Так, Міхась Пазнякоў, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі падкрэсліў значнасць выдання перакладных кніг для дзяцей: «Я вельмі рады, што Выдавецкі дом «Звязда» рэалізоўвае міжнародныя праекты. Гэта серыя «Сугучча сэрцаў», а таксама новая міжнародная серыя кніг для дзяцей. Выдатна, што ёсць такое супрацоўніцтва з нашымі замежнымі сябрамі і калегамі, імкненне да ўзаемаперакладу, узаемадаследавання. Гэта не проста абмен творамі, але і магчымасць закрануць новыя тэмы, пазнаёміцца з новымі жанрамі, разгледзець пытанні, якія ў межах адной нацыянальнай літаратуры пакуль не ўздымаліся. Для сучаснага пакалення дзяцей, якія маюць надзвычай шырокі кругагляд, гэта вельмі важна».

Меркаванне мамы, рэжысёра і пісьменніка выказала Алена Турава:

— Маёй дачцэ 11 гадоў, але я, чытач з вялікім стажам, ніяк не магу яе прывучыць да кнігі. Адчуваецца нейкае супраціўленне. Напэўна, з-за таго, што сучасныя дзеці па-іншаму ўспрымаюць інфармацыю, у больш яркім, гатовым, сцісылым выглядзе. Назіраецца і вельмі цікавая з'ява: раней мы спачатку чыталі казкі, потым чакалі кіно, каб паглядзець на герояў, вобразы якіх для сябе ўжо прыдумалі. Сёння ж усё адбываецца наадварот: дзеці спачатку глядзяць фільм, а потым чытаюць кнігі. На маю думку, гэта хутчэй кепска, чым добра. Цяпер героі кніг у свядомасці ўсіх чытачоў аднолькавыя — яны ж і героі фільмаў. Але, з іншага боку, менавіта гэтая адметнасць дапамагае і нам прадаваць кнігі. Да прыкладу, некалькі гадоў таму ў Выдавецкім доме «Звязда» выйшла мая кніга «Рыжык у Залюстроўчы». На яе вокладцы фактычна постар аднайменнага фільма, прэм'ера якога адбылася адначасова з прэзентацыяй кнігі. Тыраж вельмі хутка разышоўся, цяпер выдавецтва нават рыхтуе перавыданне. Гэты досвед мы паспрабавалі паўтарыць з маёй новай кнігай «Кіндэрвілейскі прывід». Адметна, што ў гэтым выданні змешчаны фотаздымкі — кадры з аднайменнага фільма, якія пакуль не выйшаў у пракат. Ілюстрацыі прадаставіла кінастудыя «Беларусьфільм». Гэта адзін з новых варыянтаў працы з чытачом і гледачом.

**Марына ВЕСЯЛУХА**



Анатоль Жук.




# Случчына. Літаратурная карта

Слуцк, вул. Шасэйная (пач. XX ст.).

**Рэгіянальнае краязнаўства складана ўявіць без увагі да гісторыі літаратуры. Лёсы пісьменнікаў-землякоў, паходжанне тых ці іншых твораў, пошук у пэўнай мясцовасці прататыпаў — веданне гэтых і многіх іншых адметнасцей узбагачае гісторыю айчыннага прыгожага пісьменства. І хаця літаратурнае краязнаўства ў Беларусі развіваецца ў многіх рэгіёнах, цэласных кніг, якія б адлюстроўвалі гэты працэс, не так ужо і шмат. Сярод іншых выданняў можна вылучыць даследаванне В. Ляшук і Т. Снітко «Літаратурная Берасцейшчына», калектыўную працу «Літаратурная карта Берасцейшчыны» ды манаграфію «Літаратурная Гродзеншчына» А. Пяткевіча. Тром абласцям краіны — Брэсцкай, Віцебскай і Гомельскай — прысвечаны даведнік А. Мальдзіса, С. Сачанка і Л. Кулажанка «Літаратурныя мясціны Беларусі». Журналіст і краязнаўца са Слуцка Анатоль Жук завяршыў работу над стварэннем літаратурнай гісторыі Случчыны. З аўтарам будучай кнігі — наша гутарка.**

**— Анатоль, вы актыўна займаецеся літаратурным краязнаўствам Случчыны. Часта выступалі з артыкуламі на гэтую тэму ў раённым друку. Што стала для вас першым стымулам?**

— Гісторыяй Случчыны я цікавіўся здаўна, асабліва яе грамадска-палітычным складнікам. Працуючы ў бібліятэках, архівах, міжволі звяртаў увагу на прозвішчы людзей, якія мелі адносіны да тых ці іншых падзей або фактаў, звязаных з нашым краем. Паступова вызначыліся дзве асноўныя тэмы, якія я акрэсліў наступным чынам: «Слуцкая мінуўшчына: даты, падзеі, факты» і «Случчына: гісторыя ў асобах». Аказалася, што наша зямля вельмі шчодрая на знакамітых музыкантаў, мастакоў, вайскоўцаў, хлебаробаў і, канечне ж, на літаратараў. Як тут не ўспомніць словы незабыўнага земляка Васіля Віткі, што «не зводзіліся ўсе вякі на Случчыне паэты!».

Калі ў 2000 годзе пазнаёміўся з кнігамі Алеся Карлюкевіча «Літаратурная карта Пухаўшчыны» і Аляксея Пяткевіча «Літаратурная Гродзеншчына», пачаў сістэматычна збіраць звесткі менавіта пра слуцкіх творцаў розных часоў. Так нарадзіўся гістарычна-краязнаўчы нарыс «Літаратурная Случчына». Дарэчы, біяграфічныя звесткі па магчымасці дапоўнены ўрыўкамі з твораў пісьменнікаў, іх успамінаў, выказваннямі пра Случчыну — зямлю, дзе яны нарадзіліся, ці жылі, ці працавалі, пра калег па літаратурным цэху, пра сябе і сваю творчасць.

**— З якога часу пачынаецца храналогія ў вашым даследаванні?**

— Храналогію свайго нарыса я пачаў з 1116 года — таго часу, калі Слуцк быў упершыню згаданы ў «Аповесці мінулых часоў». Больш-менш сістэматычныя звесткі пачынаюцца з другой паловы XV стагоддзя, а найбольш поўна прадстаўлены XX і XXI стагоддзі. Некаторыя прозвішчы пададуцца чытачам знаёмымі, а кагосьці, можа, зусім не ведаюць. Не прэтэндую на тое, што мне ўдалося прадставіць літаратурную Случчыну ва ўсёй паўнаце. Не выключана (і вельмі добра!), што нас яшчэ чакаюць цікавыя адкрыцці ў гэтым кірунку, знаёмства з невядомымі ці малавядомымі сёння творцамі. Абсягі краязнаўчай работы тут яшчэ не вычарпаны, і я шчыра жадаю поспехаў тым, хто прадоўжыць вывучэнне гэтай тэмы.

**— Відавочна, што літаратурная гісторыя слуцкага краю — гэта гісторыя не толькі Слуцкага раёна. Якая «геаграфія» ў вашай кнізе?**

— Сапраўды, гістарычная Случчына — гэта і Капыльшчына, Клеччына, Салігоршчына, Нясвіжчына, значныя часткі Старадарожчыны, Любаншчыны і нават Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Была спакуса зноў аб'яднаць іх, цяпер — у «Літаратурную Случчыну». І ўсё ж, каб не атрымалася скарагаворкі ці проста пашыранага спіса літаратараў, ад гэтага адмовіўся. Па-першае, не бачу нічога дрэннага ў тым, што некалі прачытаем пра літаратурную Капыльшчыну або літаратурную Любаншчыну. Па-другое, у адной працы, хай сабе і вялікага аб'ёму, немагчыма прааналізаваць жыццёвы шлях і творчыя набыткі пісьменнікаў, якія маюць дачыненне да такой вялікай тэрыторыі. Таму я паставіў перад сабой больш сціплую задачу: канспектыўна распавесці пра слуцкіх літаратараў розных часоў. Не толькі пра ўраджэнцаў Слуцка і раёна (у цяперашніх межах), але і пра тых пісьменнікаў, чые жыццёвыя пуцявіны пралягалі па тутэйшых мясцінах і хто ў сваіх творах не абыходзіў увагай Случчыну і случан. Таму на старонках нарыса можна сустрэць прадстаўнікоў гістарычнай Случчыны. Напрыклад, Еву Фялінскую з Клеччыны, Кузьму Чорнага, Міколу Хведаровіча і Яна Скрыгана з Капыльшчыны, Фёдара Еўлашоўскага і Напалеона Чарноцкага з Ляхавіцкага раёна, а таксама Мацея Стрыйкоўскага (Польшча), Эмануіла Казачынскага (Украіна), Яна Пашакоўскага і Эдуардаса Даўкшу (Літва) і інш. Наша зямля не толькі нараджала таленты, але і прываблівала да сябе таленавітых ураджэнцаў іншых мясцін.

**— Наколькі ёміста прадстаўлены пісьменнікі, якія пэўны час працавалі ў слуцкім рэгіёне? У прыватнасці, Якуб Колас.**

— Асобу Коласа, гаворачы пра літаратурную Случчыну, абмінуць нельга. У пачатку 1920-х гадоў ён некалькі месяцаў працаваў у Слуцку выкладчыкам на курсах па падрыхтоўцы настаўнікаў для школ на беларускай мове. Якуб Колас яшчэ і чытаў курсантам раздзелы паэмы «Новая зямля», знаёміўся з побытам настаўнікаў, сустракаўся з удзельнікамі мастацкай самадзейнасці, з жыхарамі Случчыны. У адным з лістоў да сваёй жонкі Марыі Дзмітрыеўны ён напісаў: «Учора быў у гасцях у загадчыка курсаў Сяргея Антонавіча Бярозкі. Гэта ўжо пажылы настаўнік, адлічны арганізатар, чалавек дзела». Якуб Колас заўважыў, што сын С. А. Бярозкі «незвычайна даравіты хлопец. Навейшую расейскую літаратуру ведае, як прафесар, разважае па-прафесарску… Скончыў драматычную студыю, піша вельмі талентна расейскія вершы, пераймае крыху Блока, Брусава, імажыністаў, але формы, змест, пачуццё злучаюцца гарманічна і вельмі прыгожа... Калі я пазіраў на гэтага юнака, то мне чамусь напомніў ён Максіма Багдановіча і сваёю інтэлігентнасцю, і сваёю паэзіяю...» Якуб Колас не памыліўся: сын С. А. Бярозкі Георгій з цягам часу стаў празаікам, крытыкам, літаратуразнаўцам.

Па вытрымках з лістоў Якуба Коласа можна меркаваць, што Случчына запала ў яго душу. Ва ўсякім разе, калі ў паэме «Новая зямля» паэт расказвае пра паездку Міхала і Антося на агледзіны новай гаспадаркі, ён па-сапраўднаму цёпла піша пра наш край: «*Прад імі Случчына ляжала,/ Старонка міла і багата*». У 36 паэтычных радках гэтага ўрыўка няма ніводнага клічнікаў, прыметнікаў. Згадзіцеся, што проста так не мог іх выкарыстаць бясспрэчны знаўца роднай мовы Якуб Колас. Слуцкі перыяд хоць і быў непрацяглым у жыцці народнага паэта, ды ледзь не адыграў у яго лёсе трагічную ролю, пра што таксама ідзе гаворка ў «Літаратурнай Случчыне». Ёсць тут і згаданы Якубам Коласам Максім Багдановіч. Ён ніколі не быў на Случчыне, але яго імя носіць адна адной са слуцкіх вуліц. І таму, што творчасць Максіма Багдановіча — сярод самых прыгожых і каштоўных часцінак беларускай літаратуры, і таму, што ён напісаў цудоўны верш «Слуцкія ткачыхі».

**— А такія пісьменнікі, як Пётр Кошаль, Юрый Лошчыц і іншыя трапілі ў поле даследчыцкага зроку?**

— Так, не засталіся па-за ўвагай «Літаратурнай Случчыны» пісьменнікі — ураджэнцы Случчыны, якія па волі лёсу апынуліся далёка за межамі роднага краю. Сярод іх і Пётр Кошаль, і Аляксандр Слупскі, і Давід Глікман, і Язэп Дыла, і Яўхім Кохан, і іншыя, хто жыў і працаваў у Расіі. Ёсць згадкі і пра случан, якія займаліся літаратурнай дзейнасцю, напрыклад, ва Узбекістане (Сцяпан Ліхадзіеўскі), у Польшчы (Адам Плуг), ЗША (Ян Пятроўскі, Янка Золак, Міхась Кавыль). Наколькі поўна прадстаўлены такія літаратары, меркаваць чытачам.

**— Сучаснае літаратурнае жыццё... Ці стала яно прадметам увагі ў гісторыка-краязнаўчым нарысе?**




Слуцк. Уваход у манастыр (пач. XX ст.).

— Сучасныя пісьменнікі, ураджэнцы Случчыны, прадстаўлены найбольш поўна. Тут і літаратары старэйшага пакалення (Алена Васілевіч, Яўген Гучок, Валер Санько, Алесь Жук, Галіна Каржанеўская, Алесь Марціновіч, Сяргей Пятроў), і маладзейшыя (напрыклад, Таіса Трафімава, Ганна Міклашэвіч, Алесь Пашкевіч, Зоя Падліпская і некаторыя іншыя). Калі ж гаварыць пра большасць тых случан, якія спрабуюць свае сілы ў прыгожым пісьменстве і жывуць на Случчыне, то сярод іх нямала людзей, здольных прадоўжыць літаратурныя традыцыі нашага краю. Не хто іншы, як Яго Вялікасць Час, засведчыць, што з напісанага нашымі сучаснікамі можна будзе аднесці да мастацкага слова, літаратуры, а што застанецца толькі пацвярджэннем іх жадання праявіць сябе ў літаратурнай творчасці. Упэўнены, што знаёмства з лепшымі літаратурнымі творамі нашых землякоў (сучаснікаў і іх папярэднікаў) — гэта і духоўнае ўзбагачэнне, і ўмацаванне повязі з роднай старонкай, і магчымасць зазірнуць у наша мінулае ці, наадварот, у будучыню. І нават калі хто-небудзь у гэтым сумняваецца, літаратурная гісторыя Случчыны вартая таго, каб з ёю пазнаёміцца.

**— Друкуючы асобныя раздзелы будучай кнігі, ці мелі вы водгукі, пошту зацікаўленых чытачоў?**

— Хоць не ўсе раздзелы «Літаратурнай Случчыны» (да таго ж у скарочаным выглядзе) былі змешчаны ў раённай газеце, яны выклікалі цікавасць у немалой колькасці чытачоў, у першую чаргу — настаўнікаў літаратуры і бібліятэчных работнікаў. Сёння ў многіх бібліятэках раёна захаваліся выразкі тых газетных публікацый. Дарэчы, я і разлічваў, што кніга будзе цікавай і карыснай настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, гісторыі, вучням і студэнтам, краязнаўцам і работнікам устаноў культуры, а таксама ўсім, хто цікавіцца гісторыяй нашага краю, хто неабыякавы да роднага слова.

Наконт тэрмінаў выдання «Літаратурнай Случчыны» загадваць наперад не хацелася б. Вельмі спадзяюся на тое, што сёлета кніга пабачыць свет. А спадзяванні трэба падмацаваць працай. Як інакш?

**Кастусь ЛАДУЦЬКА,**
**паштоўкі з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава**

# Ад «А» да «Я»













**Сярод навінак «Харвеста» — серыя даведнікаў Беларусі. Невялікія кніжачкі змяшчаюць мноства цікавай інфармацыі, якая дзеля зручнасці чытачоў прадстаўлена ў алфавітным парадку і дапоўнена выдатнымі ілюстрацыямі.**

## ПАЗНАЁМ МІФЫ І… СЯБЕ

Адкрываецца серыя кнігай **«Міфы Беларусі»**. Выданне пазнаёміць чытача з самым загадкавым, чароўным і містычным у культуры беларускага народа. У нашай краіне бытуе вялікае мноства розных міфаў. Археалагічныя знаходкі сведчаць пра тое, што ўжо ў 9 — 8 тыс. да н. э. на тэрыторыі Беларусі існавалі міфалагічныя прадстаўленні: татэмізм, анімізм, фетышызм, магія. Людзі пакланяліся прыродзе, рабілі драўляныя і касцяныя фігуркі людзей і жывёл. Пазней з'явіліся элементы арнаменту ў кераміцы. Самым распаўсюджаным знакам быў салярны — кола с кропкай пасярэдзіне.

Кніга дапаможа даведацца, як жылі нашыя продкі. А яны мелі адметнае бачанне навакольнага свету, верылі ў вялікую колькасць багоў: Белабога, Сварога, Чарнабога, Перуна і інш. Надзялялі звышнатуральнымі сіламі прыроду, жывёл, птушак, верылі ў злых і добрых духаў, ведалі, як абараніць свой дом ад бедаў і прыцягнуць удачу.

У беларускай міфалогіі дзіўным чынам пераплятаюцца вераванні нашых далёкіх продкаў, язычнікаў, і больш позняе — хрысціянскія. Развіццё язычніцкай міфалогіі завяршылася ў дзясятым стагоддзі, але некаторыя элементы дахрысціянскай культуры існуюць у свядомасці беларусаў і па сёння.

Чытач прачыніць дзверы ў дзівосны свет беларускіх казак, легенд, паданняў, абрадаў і вераванняў. На старонках кнігі ажываюць розныя міфалагічныя вобразы. Сярод іх — знаёмыя з дзяцінства персанажы: Баба-Яга, Дамавік, Русалка, Кікімара, Ваўкалак, асілкі... Але ж ёсць і тыя, пра каго раней і не ведалі.

Кніга раскрые міфалагічнае значэнне розных жывёл і птушак. Бусел, напрыклад, заўсёды лічыўся прадвеснікам хуткага нараджэння дзіцяці, а крот — пасланнікам падземнага царства, смерці. Ластаўку атаясамлівалі з чысцінёю, святасцю, а ката — з нячыстай сілай… Беларусы надзялялі рознымі містычнымі ўласцівасцямі не толькі птушак і жывёл, але і расліны. Дуб заўсёды быў сімвалам сілы, мужнасці, вечнага жыцця, будынкі з гэтага дрэва лічыліся блаславёнымі, а крапіву клалі за дзверы, каб у хату не праніклі чарадзеі…Такіх павер'яў на Беларусі існавала вельмі шмат.

Дзе шукаць папараць-кветку? Адкуль пайшлі беларускія абрады і святы: Дзяды, Каляды і Купалле? Адказы на гэтыя ды іншыя пытанні знойдзеце ў «Міфах Беларусі».

Міфалогія даносіць да нашчадкаў магічныя архетыпы і сімвалы. Яны падсвядома ўздзейнічаюць на нас. Спазнаўшы жыццё продкаў, мінулае, мы спазнаём і саміх сябе.

## СМАЧНА І КАРЫСНА

Вы ведаеце, якое важнае значэнне для чалавечага арганізма маюць ягады і садавіна? Яны не толькі смачныя, але і вельмі карысныя! У выданні **«Ягады Беларусі»** сабраныя звесткі пра асаблівасці пладоў і ягад, якія растуць у нашай краіне.

Людзі збіралі садавіну са старажытных часоў. Адным з першых пладовых дрэў, якія пачаў вырошчваць чалавек, была яблыня. Насенне яблыкаў вучоныя знаходзілі ў раскопках, якія належаць яшчэ каменнаму веку. У біблейскіх легендах згадваюцца таксама вінаград, інжыр, масліны.

У антычных дзяржавах разводзілі сады. Асабліва развітым было пладаводства Вавілона, Асірыі, Старажытнага Егіпта. Пладовыя насаджэнні пільна сцераглі, а садоўнікі лічыліся вельмі адоранымі людзьмі. Ва ўсе часы людзі цанілі садавіну, яе цудадзейную сілу.

Ягады і садавіна валодаюць лекавымі здольнасцямі. Калі вы рэгулярна ясце іх — зможаце пазбегнуць розных хвароб! Дарэчы, менавіта таму яны часта выкарыстоўваюцца ў дыетычным, дзіцячым і лекавым харчаванні. Ягады і садавіна змяшчаюць у сабе лёгказасваяльныя вугляводы, кіслоты, вітаміны, мінеральныя солі, дубільныя, араматычныя і іншыя карысныя рэчывы. Колькасць іх залежыць ад віду пладоў. Сліва, напрыклад, змяшчае злучэнні медзі, калію, марганцу і цынку, а суніцы — галоўная крыніца вітамінаў С і Е. Дарэчы, у лупіне пладоў нашмат больш вітамінаў, чым у мякаці, а свежая садавіна губляе некаторыя карысныя рэчывы, калі яе прыгатаваць.

Але не буду раскрываць усе сакрэты. Жадаеце згатаваць што-небудзь незвычайнае да святочнага стала? Калі ласка! У даведніку вы знойдзеце мноства выдатных рэцэптаў пірагоў і пудынгаў, мусаў і крэмаў, джэмаў і жэле… Але цудоўныя дэсерты — гэта не ўсё. Уявіце сабе: з садавіны і ягад можна прыгатаваць кашы, салаты, бутэрброды, нават мясныя стравы і супы. Звыклыя рэцэпты адразу атрымаюць непаўторны, а часам нават экзатычны смак.

## АМАТАРАМ «ЦІХАГА ПАЛЯВАННЯ»

Упэўнена, многія з вас любяць хадзіць у лес і збіраць грыбы. Але нельга забываць, што рабіць гэта трэба вельмі асцярожна і ўважліва. Грыбы могуць быць атрутнымі, небяспечнымі для жыцця і здароўя чалавека. Разабрацца ў грыбной разнастайнасці бывае цяжка нават дасведчанаму грыбніку. Добрым дапаможнікам стане даведнік **«Грыбы Беларусі»**. Выданне будзе вельмі карысным і для заўзятых грыбнікоў, і для навічкоў.

Цяжка знайсці такое месца на зямлі, дзе не раслі б грыбы. Яны даволі непераборлівыя і могуць знайсці ўмовы для свайго існавання ўсюды: ад запаляр'я да спякотных тропікаў. Грыбы можна знайсці ў лесе і ў полі, на лузе і ў садзе, у гарах і ў стэпе, у глебе і нават у вадзе.

Налічваецца каля 100 тысяч відаў грыбоў. Ніводны з іх канчаткова не вывучаны. Больш за тое, вучоныя і біёлагі доўгі час не маглі адказаць на простае, здавалася б, пытанне: да якога класа прыроды аднесці грыбы? Да раслін? Да марскіх жывёл? Да мінералаў? Існавала мноства меркаванняў. Сёння большасць вучоных вылучае грыбы ў асобнае, самастойнае царства прыроды.

Памеры, форма, будова грыбоў вельмі розныя. У выданні вы знойдзеце звесткі пра асаблівасці многіх грыбоў, якія растуць у Беларусі. Цікава, што не ўсе яны дасягаюць вялікіх памераў. Некаторыя такія маленькія, што іх можна пабачыць толькі з дапамогай мікраскопа.

Якія толькі павер'і, забабоны, небыліцы не хадзілі вакол гэтых дзіўных арганізмаў! Людзі нават лічылі, што грыбы — гэта вынаходніцтва д'ябла, каб парушыць гармонію прыроды і заблытаць людзей. Аднак гэта толькі страшныя казкі. На самай справе мы ведаем, што грыбы маюць важнае значэнне і для прыроднага свету, і для чалавека.

Акрамя таго, грыбы — вельмі смачная страва. Спосабаў іх прыгатавання шмат. У кнізе «Грыбы Беларусі» вы знойдзеце падрабязныя звесткі пра тое, як рабіць гэта правільным чынам. А таксама навучыцеся гатаваць дзівосныя стравы з грыбоў: салаты, вінегрэты, закускі, супы. І нават далікатэсы: грыбную ікру і пасту. Пакаштуем?

## ЗБЕРАГЧЫ!

Выданне **«Птушкі Беларусі»** пазнаёміць чытача з птушкамі, якія насяляюць нашу краіну. Даведнік стане вельмі карысным для тых, хто цікавіцца гэтымі дзівоснымі істотамі.

Некаторых мы бачым амаль кожны дзень: вераб'я, варону, сініцу, голуба. Але нават пра гэтых птушак мы ведаем няшмат. Магчыма, толькі тое, што іх колькасць застаецца адносна вялікай і стабільнай. Яшчэ менш вядома пра віды, якія насяляюць лес, луг, поле, балота. Насамрэч у нашай краіне цэлае мноства розных цікавых і незвычайных птушак. У Беларусі можна пабачыць вальдшнэпа, рабінніка, серабрыстую чайку, няясыць, сойку…

Птушкі — істоты даволі палахлівыя. Назіраць за імі трэба вельмі асцярожна. Каб навучыцца рабіць гэта без шкоды, трэба абавязкова азнаёміцца з парадамі і рэкамендацыямі, якія змешчаны ў даведніку. З'яўленне чалавека каля гнязда можа быць небяспечным для птушкі і нават каштаваць ёй жыцця.

Відаў птушак налічваецца каля 9 тысяч. Здавалася б, велізарная колькасць! Але гэтая разнастайнасць падманлівая. На жаль, амаль усе віды ўжо атрымалі статус пагрозы і абароны. Асаблівым клопатам акружаны еўрапейскія птушкі, у тым ліку і беларускія. На мяжы знікнення чорны бусел, арлан-белахвост, беркут, шэры жораў… Гэта толькі некалькі відаў, занесеных у Чырвоныя кнігі розных краін. На самай справе іх значна больш. Колькасць прадстаўнікоў некаторых відаў з кожным годам няўмольна памяншаецца.

У культуры многіх народаў птушка — сімвал душы, якая супрацьстаіць усяму дрэннаму, нізкаму. З даўніх часоў людзі вылучалі птушку як асаблівую істоту, лічылі яе пасланніцай вышэйшага свету, пасрэдніцай паміж Богам і чалавекам, атаясамлівалі з анёлам. Зберагчы іх сёння — наш абавязак.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Папяровы шарык ці вірус гарэзлівасці?

Сустрэча з рэжысёрам дзіцячых фільмаў і аўтарам кніг «Рыжык у Залюстрэччы» і «Кіндэрвілейскі прывід» Аленай Туравай адбылася ў межах ХХІ Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.



«Дзеці, вы любіце чытаць кніжкі? Калі так, дакажыце!» — сур'ёзна і падаросламу звярнулася Алена Турава да маленькіх гледачоў, захапіўшы іх увагу. Віктарына, якую прапанавала рэжысёр, складалася з наступных умоў: адчуць у сябе смеласць, выйсці на сцэну і назваць пяць казак разам з прозвішчамі іх аўтараў. Зразумела, за падарункі. Высветлілася, што заданне складанае, бо справіліся з ім толькі дзве дзяўчынкі.

Па словах Алены Туравай, трэба больш чытаць, бо кнігі развіваюць фантазію. Кожны чытач — аўтар сваёй рэальнасці, у свядомасці якога ствараюцца незвычайныя персанажы! Глядзець экранізацыю лепш пасля знаёмства з літаратурным творам, каб параўнаць чужыя ўяўленні са сваімі.

Рэжысёр і пісьменніца стварыла тры фільмы-казкі і тры фантастычныя кніжкі, якія выйшлі ў «Выдавецкім доме «Звязда». Стужка «Навагодняя прыгоды ў ліпені» нагадвае экранны комікс пра віртуальны свет, дзе валадарыць камп'ютарны вірус. Фэнтэзі «Рыжык у Залюстрэччы» распавядае пра магічнае каралеўства, зачараванае люстэркі і смелую прынцэсу-школьніцу. І, нарэшце, сямейнае фэнтэзі «Кіндэрвілейскі прывід», прэм'ера якога запланавана на сакавік, уяўляе сабой гатычную, атмасферную, але вельмі забаўную гісторыю па матывах навелы Оскара Уайльда.

— Сучасная сям'я прыязджае ў закінуты дом і сутыкаецца з яго даўнім жыхаром, прывідам. Істота страшна незадаволена тым, што яе спакой парушаны людзьмі, спрабуе іх напалохаць, але трапляе ў смешныя сітуацыі. Я ўзяла за аснову гісторыю знакамітага англійскага пісьменніка, перанесла яе ў наш час, а месцам дзеяння зрабіла Вілейскі раён Беларусі, — распавяла пра сюжэт новага фільма Алена Турава.

Тым часам вакол дома, адлюстраванага ў кінастужцы, адбываюцца не менш цікавыя падзеі, вірue сваё жыццё. Так, невялічкі гурток дзяцей заняты пошукам скарбу, які быццам бы ахоўвае той самы прывід.

— У дзяцінстве я таксама была апантаная марай знайсці скарб. Мне здавалася, што яны паўсюль закапаны, трэба толькі пашукаць, — падзялілася ўспамінамі рэжысёр.

На сустрэчу завітала дачка Алены Туравай, юная актрыса Вераніка Шылкоўская, якая ў «Кіндэрвілейскім прывідзе» выканала ролю галоўнай завадатаркі са звычкамі мужнага хлопца ў бандзе маленькіх скарбашукальнікаў. Дзяўчынка здымаецца ў кіно з чатырох гадоў, дэбютавала ў фільме «Навагоднія прыгоды ў ліпені» — у вобразе Агеньчыка.

— Агеньчыку патрэбна было сядзець на высачэзным грыбе, пры гэтым праяўляць эмоцыі, якіх патрабуе сюжэт. Шчыра кажучы, калі я, дарослая, ўскараскалася на гэты грыб, адчула сябе не вельмі добра. А дзіця справілася са сваёй задачай выдатна! — адзначыла Алена Турава.

Яе фільмы — гэта заўсёды спалучэнне ігры акцёраў з анімацыяй. Большасць чароўных элементаў, якімі захапляюцца гледачы, з'яўляецца дзякуючы фантазіі і руплівай працы мастакоў. Вось, напрыклад, аніміраваны вірус гарэзлівасці Чух, аранжавая істота, якая лятае і забаўляе ўсіх, хто з ёй сутыкаецца, — цалкам намаляваны персанаж.

— Падобную істоту немагчыма было знайсці, выдрэсіраваць і прымусіць працаваць. Гэта значыць, усе нашы акцёры працавалі з уяўнай прасторай, папяровым шарыкам, рабілі выгляд, што кагосьці ловяць і баяцца. Гэта цяжка нават для дарослых. А для дзяцей — тым больш, — канстатавала рэжысёр і паказала ў пацвярджэнне сваіх слоў ролік пра тое, як ствараюцца цуды ў фільме.

У кніжцы «Кіндэрвілейскі прывід», якая прэзентавалася на сустрэчы, шмат малюнкаў, дзе прадстаўлены кадры з будучага фільма, таму пазнаёміцца з ім можна яшчэ да прэм'еры.

У творчых планах Алены Туравай — выхад зборніка лірычна-філасофскіх казак пад працоўнай назвай «Туфлік, поўны незабудак», якімі, упэўнена, зацікавяцца не толькі дзеці, але і дарослыя.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Казачнае падарожжа

З развіццём інтэрнэт-тэхналогій выказваюцца трывожныя меркаванні пра тое, што звычайная папяровая кніга з цягам часу страціць сваю папулярнасць, на змену ёй прыйдзе электронны варыянт. Песімістычныя прагнозы не спраўджваюцца.

Маркуйце самі: у І Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы ўзялі ўдзел 315 выдаўцоў з 8 краін СНД і Прыбалтыкі. На ХV міжнародную завіталі ўжо больш як 40 тысяч кнігааматараў, а на ХХ — 55 тысяч! Сёлета наведвальнікаў было яшчэ больш. Гэта значыць друкаваная кніга не толькі не губляе сваёй папулярнасці, але, наадварот, набірае яе! Прыемна, што дзеці цікавяцца не толькі камп'ютарнымі гульнямі, але і з задавальненнем чытаюць. Пацвярджэннем таму — Дзень дзіцячай кнігі, які прайшоў на кніжным форуме.

Для самых юных чытачоў працавалі пляцоўкі, на якіх прэзентаваліся новыя дзіцячыя выданні. З хлопчыкамі і дзяўчынкамі сустракаліся сучасныя беларускія пісьменнікі, а бацькі мелі магчымасць набыць кнігі з аўтографамі аўтараў. Напрыклад, РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» арганізавала аўтарскія пляцоўкі «Свет тэатра», «Свет кіно», а таксама «Свет кнігі», дзе выступілі пісьменнікі, чые творы нядаўна ўбачылі свет у выдавецтве. Таццяна Сівец разам з лялечным тэатрам «Пацешка» дзіцячай бібліятэкі № 6 імя В. Віткі прадставіла серыю «Брык і Шуся шукаюць лета» і «Куды прапала малпа Маня: Дэтэктыўнае агенцтва «Брык і Шуся». Алена Турава распавяла пра новыя кнігі «Рыжык у Залюстрэччы» і «Кіндэрвілейскі прывід». Уладзімір Мазго прэзентаваў выданне «Адвечныя скарбы Радзімы». Віктар Ляскоўскі пазнаёміў аўдыторыю са зборнікам «Вершы пад ёлку». Кацярына Хадасевіч-Лісавая прадставіла юным чытачам новую кнігу «Казкі Сіняй падушкі».

Пасля прэзентацый каля стэнда РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» прайшлі аўтограф-сесіі пісьменнікаў. Па словах бацькоў, сустрэчы з аўтарамі і аўтографы ў кнігах выклікаюць у дзяцей асаблівую цікавасць.

А бібліятэкарам з цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк Мінска хочацца яшчэ раз падзякаваць не толькі за дапамогу ў падрыхтоўцы выставачных мерапрыемстваў, але і за штодзённую працу па папулярызацыі дзіцячай кнігі.

Кніжная выстаўка прайшла, але набытыя падчас яе выданні яшчэ доўгі час будуць радаваць сваіх чытачоў.

**Аляксандр СЦЯПАНЕНКА**

# Трайны эфект

Дзе дазнацца пра сакрэты добрага настрою? Які сакральны сэнс маюць спрадвечныя беларускія абрады? Адказы на гэтыя пытанні можна знайсці ў новых кніжных праектах выдавецтва «Адукацыя і выхаванне», якія былі прэзентаваны на ХХІ Мінскай міжнароднай выстаўцы-кірмашы.

## 100 ДОБРЫХ КНІЖАК

Выдавецтва «Адукацыя і выхаванне» і рэдакцыя часопіса «Вясёлка» рэалізуюць сумесны праект «Бібліятэка часопіса «Вясёлка». Яго мэта — выпусціць сто дзіцячых кніжак, лепшых твораў для маленькіх, якія публікаваліся на старонках часопіса амаль з 1957 года. Пакуль што пабачыла свет чатыры выданні: «Сакрэты колераў вясёлкі» Уладзіміра Ліпскага, «У свеце дабрыні» Эдзі Агняцвет, «Кот жыве без турбот» Анатоля Зэкава, «Матылёчкі-матылькі» Раісы Баравіковай.

Дзіцячы пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка» Уладзімір Ліпскі шчыра заклікаў не прапусціць гэтую ўнікальную, без перабольшвання, серыю кніг: «Вельмі хацелася б, як яна была ў кожнай сям'і, дзе ёсць дзеці! Я глыбока пераканаы ў тым, што хлопчыкам і дзяўчынкам трэба выхоўваць «мускулы душы». Як? З дапамогай добрых кніжак!»

«Нядаўна пачаў сваё існаванне і новы часопіс «Буся», прызначаны для самых маленькіх. «Выйшла ўжо тры нумары. Разам з Раісай Баравіковай мы пішам для яго дзіўную казку «Чароўныя літары», якая пакажа дзеткам, што іх родная мова багатая і сакавітая», — падвёў вынік Уладзімір Ліпскі.

## БЫВАЙ, СУМНЫ НАСТРОЙ!

Прэзентацыя кніг «Пішу, таму што баліць…» і «Развітваюся з дэпрэсіяй» з удзелам літоўскага пісьменніка-пазітывіста, дырэктара выдавецтва «Тры зорачкі» Яронімаса Лаўцюса адбылася на прэзентацыйнай пляцоўцы выдавецтва «Адукацыя і выхаванне».

Яронімас Лаўцюс з'яўляецца аўтарам больш як 100 кніг для дзяцей і адначасова — добрым псіхолагам, які змагаецца са стрэсам, дэпрэсіяй, страхамі — словам, з праблемамі дарослых.

«Я вучыўся жыццю дзякуючы казкам, верыў ім нават больш, чым свету. Але потым, калі мае дзеці выраслі, убачыў: колькі ж людзей хварэе на дэпрэсію! Не разумею, чаму мы, свабодныя, жывыя, уводзім сябе ў безвыходны сум!» — прызнаўся пісьменнік.

Гісторыі, якія пачуў Яронімас Лаўцюс, наведваючы бальніцы, пакладзены ў аснову яго кнігі «Пішу, таму што баліць…». «Псіхічна хворыя людзі — такія ж, як усе, толькі больш ранімыя. Да іх нельга адносіцца з пагардай і тым больш зневажаць», — упэўнены псіхолаг.

«Калі выйсці з дому у галаледзіцу і не звярнуць на яе увагі, паслізнуцца вельмі лёгка. З душой чалавека адбываецца тое ж самае. Мы вельмі чуллівыя, таму трэба падтрымліваць адзін аднаго, не даваць упасці. Адна дзяўчына павіталася са сваім начальнікам, а ён не адказаў. Яна замкнулася ў сабе, стала баяцца ўсіх, тры гады хварэла на дэпрэсію. А яшчэ я часта чуў у бальніцы: прачынаюся, бачу сцены палаты і думаю — як добра, што я не дома. Гэта жудасна, бо дом, сям'я — самае лепшае, што ёсць у чалавека!» — лічыць Яронімас Лаўцюс.

Па словах пісьменніка, добра, калі да чалавека прыходзіць сум, бо ён дае магчымасць падумаць, пераасэнсаваць жыццё і самога сябе. Але сум нельга трымаць, ён павінен быць госцем, які завітаў на гадзіну і сышоў. Інакш ён застанецца і будзе гаспадаром у душы.

## ШЧАСЦЕ Ў КАРАВАІ?

Кніга «Залатыя правілы народнай культуры» выдавецтва «Адукацыя і выхаванне» на кніжных паліцках доўга не затрымліваецца — знікае за некалькі месяцаў, таму і перавыдаецца ўжо шаснаццаты раз! Аўтарамі папулярнага выдання з'яўляюцца этнакультуролагі і пісьменнікі Аксана Катовіч і Янка Крук.

Дзякуючы Аксане Катовіч на прэзентацыі кніг выдавецтва «Адукацыя і выхаванне» можна было даведацца пра сапраўдны сэнс старадаўніх вясельных традыцый. На вокладцы кнігі «Беларускае вяселле ў прасторы традыцыйнай культуры» нездарма намаляваны хлеб і соль, бо гэта галоўныя сімвалы сямейнага шчасця, і калі іх скарыстаць бяздумна…

«Уявіце, што маладыя пад'язджаюць да дома, а бацькі з хваляваннем чакаюць іх на парозе і прапануюць выпіць чарку гарэлкі і адкусіць кавалачак вясельнага каравая. Гэты абрад сёння выконваецца да смешнага няправільна! Раней маладыя ведалі, што піць гарэлку ці медавуху ля сваёй хаты нельга. Трэба было прыгубіць яе, сказаць, што горкая, і выліць праз левае плячо. А каравай не ламаць ці грызці, а пацалаваць і паставіць на стол перад жаніхом і нявестай як галоўны абярэг сямейнага шчасця», — распавяла Аксана Катовіч.

Спрадвеку на Беларусі сябра і сяброўку жаніха і нявесты ніколі не клікалі сведкамі. «На цэнтральнай Міншчыне, напрыклад, існавалі каларытныя прозвішчы — шафер і шаферка, а на Гомельшчыне — маршалак і маршалка», — узгадала этнакультуролаг.

Аксана Катовіч не абышла ўвагай і вясельныя віншаванні. «Некуды падзеліся беларускія словы: Божа, жыта радзі, пару дзяцей благаславі! Часцей за ўсё мама бярэ паштоўку, чытае адтуль вершы, а тата кажа: далучаюся да слоў мамы. Куды сышлі нашы прыгожыя традыцыі?» — шчыра адзначыла Аксана Катовіч.

Прэзентацыя выдавецтва «Адукацыя і выхаванне» скончылася аўтограф-сесіяй аўтараў, дзе ўсе жадаючыя здолелі пагутарыць з пісьменнікамі і атрымаць кнігі, якія не проста зацікавілі, але і закранулі душу.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Рэнесанс опернага жанру



Фота Міхаіла Несцерава

1 і 2 сакавіка Вялікі тэатр Беларусі дае прэм'еру. Опера «Рыгалета» Вердзі, якая ўваходзіць у залаты фонд сусветнага рэпертуару, набудзе новае (ужо шостае!) увасабленне на беларускай сцэне дзякуючы працы інтэрнацыянальнай каманды пастаноўшчыкаў. Музычны кіраўнік будучай прэм'еры — галоўны дырыжор тэатра Віктар Пласкіна, сцэнаграфію і касцюмы стварыла фінская мастачка Ганна Контэк, а ставіць оперу рэжысёр з еўрапейскім імем і эстонскімі каранямі Неэме Кунінгас. У перапынку паміж рэпетыцыямі ён падзяліўся сваімі поглядамі на сучасны тэатральны працэс і перспектывы развіцця опернага жанру.

**— Вы паставілі больш як сто оперных спектакляў, працавалі з музычнымі шэдэўрамі розных эпох і розных аўтараў, а як складваюцца вашы ўзаемаадносіны з Вердзі?**

— Мне не даводзілася ставіць ранняга Вердзі, а вось, напэўна, з найбольш знакавымі яго операмі «Травіятай» і «Рыгалета», якія кампазітар напісаў у сярэдні перыяд сваёй творчасці, я працаваў неаднойчы. На жаль, пакуль не сутыкаўся з «Трубадурам». З пазнейшых опер Вердзі мне падабаюцца «Атэла», «Аіда», «Дон Карлас», «Фальстаф», у іх адчуваецца, наколькі дасведчаны і сталы майстар працаваў. Я параўнаў бы партытуры Вердзі з крыніцамі, з якіх заўсёды можна напіцца свежай вады. Калі б ні звяртаўся да яго опер, кожны раз знаходзіш нешта новае. Гэты феномен, напэўна, заключаецца ў тым, што творы Вердзі ўніверсальныя для любога часу і любых жыццёвых абставін, шматгранныя як у музычным, так і ў драматургічным плане, вельмі глыбокія псіхалагічна. Паглядзіце, свет цяпер зусім іншы, чым у часы Вердзі: вельмі вузкі, кампактны, хуткі. Мы ўжо праз пяць хвілін ведаем, што адбылося на другім баку планеты. Але «Рыгалета» або «Дон Карлас» па-ранейшаму гучаць сучасна. Мне здаецца, Вердзі падсвядома кадзіраваў свае творы, укладваў у іх універсальныя ідэі.

**— У Беларусі вы працуеце з операй «Рыгалета» ў трэці раз за сваю прафесійную кар'еру. Ці змянілася з часам успрыманне гэтага матэрыялу?**

— Мой погляд на гэтую оперу застаўся ранейшым. Рыгалета — вырадак не фізічны, а маральны. Мне здаецца, цікавей, калі ён не просіць спагады ў гледачоў да сваёй выродлівасці. Напрыклад, некаторыя людзі даруюць злачынства п'яным: маўляў, цвярозым ён бы сябе паводзіў інакш... Тут тое ж самае. Ну, гарбун, ну, інвалід, усё жыццё здзекаваліся, дык што з яго ўзяць? А мне б не хацелася, каб у гледачоў узнікалі такія думкі. Рыгалета прыдумаў і ажыццявіў свой план свядома, з упэўненасцю ў сваёй праваце, злосны на ўвесь свет. Тым ён і страшны. З іншага боку, гэтая опера пра ўладу і пра тое, як яна ўплывае на асобу чалавека.

**— Увогуле, палітычны падтэкст вельмі часта ўзнікае ў сюжэтах опер Вердзі...**

— Дарэчы, у кампазітара неаднаразова былі праблемы з тагачаснай цэнзурай. Але нават змяняючы месца дзеяння, імёны і тытулы дзеючых асоб, Вердзі пакідаў магчымасць удумліваму гледачу правесці паралелі з рэальнасцю. Можна прывесці ў прыклад не толькі «Рыгалета», але і «Бальмаскарад» ці адну з маіх любімых опер Вердзі «Дон Карлас», дзе выдатна паказана, як кіраўнік прымае лёсавызначальныя рашэнні, што ўплываюць на жыццё ўсёй імперыі, а пасля, верагодна, і ўсяго свету. Ён робіць гэта, магчыма, пад уплывам эмацыянальнага стану. Напрыклад, у гэты момант перажывае, што не любіць жонка і крыўдзіць раман з яго сынам. Вельмі цікава прасачыць гэтыя псіхалагічныя нюансы і зразумець, што рухае людзьмі, асабліва дзяржаўнымі, у моманты прыняцця рашэння. У тым ліку і з гэтай прычыны творчасць Вердзі вельмі надзённая. Між іншым, у яго час оперная музыка была вельмі папулярным і актуальным мастацтвам. Сённяшні ж усе ведаюць Біберам і Мадон, у нас культ папсы, а раней гэтая роля належала оперы.

**— «Рыгалета» — адна з самых папулярных сусветных опер. Гэта ўскладняе задачу рэжысёру, бо трэба зрабіць так, каб усім добра вядомы матэрыял загучаў па-новаму. Для вас гэта выклік ці паўсядзённы творчы працэс?**

— Творчасць ніколі не бывае паўсядзённай. У рэпетыцыйным працэсе мы ўвесь час атрымліваем нейкія імпульсы. Вось, рэпеціруем «Рыгалета», музыка тая ж самая, ноты адны і тыя ж, але характар дзейства, змест вобразаў заўсёды розныя. Выходзіць на рэпетыцыю Рыгалета-Громаў і дае мне, рэжысёру, адзін пасыл, выходзіць Трыфанаў — гэта быццам бы той самы Рыгалета, які ў абодвух салістаў павінен хацець аднаго і таго ж, але ўсё роўна вобразы будуць рознымі. Іншыя партнёры — «хімія» паміж артыстамі адразу ж іншая.

Акрамя гэтага, у кожнага гледача ў зале будзе ўласная гісторыя ўспрымання спектакля. Хтосьці пазнае ў персанажах «Рыгалета» знаёмых, хтосьці зробіць глабальныя, філасофскія абагульненні пра жыццё грамадства. І наша задача ў тым, каб гэтыя эмоцыі і асацыяцыі з'яўляліся ў гледачоў — справакаваць іх са сцэны. Не столькі імкнуцца адказаць на нейкія пытанні, ці абвясціць нейкія лозунгі, ці прычытаць мараль, а наадварот, даць публіцы тэму для развагі.

Таксама існуе ўмоўнасць тэатра, якая дазваляе ў сімвалічнай форме даносіць нейкія думкі. Сюрпрызам для гледача павінен стаць фінал нашага спектакля. На мой погляд, забіваць, паміраць на сцэне — няправільна. Я не магу прасіць артыста знайсці ў сваёй эмацыянальнай памяці падобны досвед. А значыць, гэта ўсё роўна будзе тэатральна. Так што для мяне як для рэжысёра больш цікава знайсці пэўныя пастановачныя сродкі, якія дапамогуць вырашыць маю задачу.

**— Незвычайная пазіцыя, бо столькі опер, дзе забіваюць і паміраюць...**

— Уявіце: мы, дарослыя людзі, збіраемся ў класе і доўга-доўга рэпеціруем, як Спарафучыле забівае Джыльду. Наіўна думаць, што атрымаецца пазбегнуць тэатральнай умоўнасці, дык няхай жа яна будзе прыгожай і сімвалічнай. Але гэта мой асабісты пункт гледжання. 15 гадоў таму я перажыў інфаркт, і гэта стала для мяне жоўтым святлом на святлафоры. Тады якраз працаваў над «Травіятай» і падумаў: а што ж я раблю? Пасля гэтага таксама ставіў нямала спектакляў, дзе ёсць смерць на сцэне, але кожны раз прыдумляў нешта, каб не паказваць яе наўпрост. Так атрымліваецца куды больш творча, таму што прымушае мяне як рэжысёра знаходзіць нейкія сродкі і сімвалы, якія не супярэчаць партытуры і лібрэта. Звярніце ўвагу, як у «Рыгалета» або «Травіяце» паміраюць Джыльда і Віялета. Раптам у аркестры ідзе далікатнае трэмала, вельмі светлая музыка: мяккая, добрая, узнёслая...

**— З прэм'ерай для рэжысёра ўсё пачынаецца ці заканчваецца?**

— На прэм'еры ўсе могуць паўплываць на ход спектакля, акрамя рэжысёра. Дзіця нарадзілася — і я шчаслівы. А артыстам яго яшчэ нараджаць. Я сяджу і гляджу, ці своечасова мяняюць святло, ці правільна сталі выканаўцы і гэтак далей. Гэта смешна і трагічна — знаходзіцца ў зале на прэм'еры і разумець, што ты ўжо не лідар працэсу, што, напэўна, трэба было нейкія сцэны вырашаць інакш... Я люблю заходзіць на свой спектакль праз тыя ж дзверы, што і гледачы, не бегаць у антракце за кулісы, не турбаваць выканаўцаў. Спектакль павінен быць зроблены ў рэпетыцыйнай зале, а выспявае ён да пятага, шостага, сёмага паказу, і гэта пры ўмове, што склад артыстаў будзе нязменным.

**— Якога стылю ўзаемаадносін прытрымліваецеся з артыстамі?**

— У маладосці я паводзіў сябе як звер. Верыў, што ў рэжысёра абавязкова павінен быць жорсткі ці дзіўны характар. Але хутка засвоіў, што нервовы рэжысёр — гэта слабы рэжысёр. У гэтым можна пераканацца, калі шмат ставіш у розных тэатрах і розных краінах. Ты прыходзіш у незнаёмы калектыў, дзе свае парадкі. І глупства спрабаваць запіхваць свой вялікі свет у іх маленькі замест таго каб асвойваць карысны досвед і вучыцца на чужых памылках. Значна мудрэй рабіць сваю справу зыходзячы з тых правілаў і абставін, якія табе дадзены. Калі сам можаш вырашаць нейкія праблемы і рабіць гэта карэктна, то ўвогуле выдатна. Тады і атмасфера ў рэпетыцыйнай зале будзе прыемнай. На самай справе нам цяпер вельмі добра. Мы іграем псіхалагічную драму, жорсткую, з трагічным фіналам, але робім гэта горача і захоплена.

**— А інакш проста няма сэнсу працаваць у тэатры!**

— Абсалютна. Але акцёры і музыканты ўзнагароджваюцца апладысментамі, кветкамі, увагай, а рэжысёр — рэдка...

**— На рэжысёра сыплюцца потым усе гузы.**

— Так, калі добры спектакль, то малайцы выканаўцы, а калі дрэнны, то вінаваты рэжысёр (*смяецца*). Для мяне будзе кампліментам, калі гледачы (і нават крытыкі!) не заўважаць працу рэжысёра. Гэта лепшая ўзнагарода, калі публіка кажа: спектакль выклікаў уражанне, артысты былі арганічныя ў сваіх вобразах, усё было лагічна і зразумела ў развіцці дзеяння. А што, там быў нейкі рэжысёр? Навошта ён наогул патрэбны?

**— Як вызначаеце, што спектакль атрымаўся?**

— Тут пытанне ў тым, хто ацэньвае працу. Па-першае, кіраўніцтва тэатра — тыя людзі, якія прымалі рашэнне зрабіць менавіта гэты спектакль з гэтымі салістамі і пастановачнай групай. Яны бяруць на сябе адказнасць, значыць, павінны быць задаволеныя. Па-другое, публіка. Але можа быць так, што публіка шчаслівая, не шкадуе авацый, а кіраўніцтва бачыць, што няма таго выніку, на які разлічвалі. Патрэцяе, крытыкі, якія таксама могуць выказацца зусім па-рознаму. Па-чацвёртае, выканаўцы. Калі яны верыць у гэты спектакль, тады будуць іграць яго з захапленнем, а калі ў іх склалася меркаванне, што пастаноўка — глупства, то спектакль будзе страчаны. А такое, каб усе згаданыя чатыры групы людзей супалі ў сваіх ацэнках, здараецца рэдка. Гэта мы называем тэатральным цудам. Трэба да яго імкнуцца, але якія магчымасці ў дадзеным выпадку ў рэжысёра? Для каго рабіць спектакль? Дагадзіць адразу ўсім немагчыма.

**— А на каго ставіце вы?**

— Я стараюся не гуляць у гэтыя гульні. Вядома, не магу ад іх абстрагавацца, але раблю так, каб правілы гульні ў кожным канкрэтным тэатры, дзе я працую, не перашкаджалі мне ставіць спектакль. Калі пачынаць думаць пра адрасата, гэта замінае творчасці. Усё роўна вызначальнымі павінны быць сумленнасць і вера ў тое, што ты робіш. Мы ўсе разам, і рэжысёр у тым ліку, заўсёды робім як мага лепш. Іншае пытанне, хто на што здольны. У кожнага чалавека, кожнага мастака дзесьці ёсць мяжа.

**— Тэатр становіцца інстытутам бізнесу, і многія мастакі ідуць па шляху прававакацыі, каб прыцягнуць публіку ў зал.**

— Гэта балючая тэма і вельмі глыбокае пытанне, па якім можна пісаць дысертацыі. Але я ўпэўнены, што мы рухаемся да рэнесансу опернага жанру. Эпатаж і скандал усім ужо надакучылі. І крытыкі, і тэатральны менеджмент, і публіка разумеюць, што музычны тэатр — гэта ўнікальная магчымасць даваць людзям жывыя эмоцыі, месца, дзе мастацтва жыве, не капіруючы іншыя тэндэнцыі з кіноіндустрыі або інтэрнэту. Новае пакаленне, якое прывыкла да вялікіх аб'ёмаў інфармацыі і вялікага выбару забаў, ужо, фігуральна кажучы, пацягнулася ад «фастфуду» да «мішленаўскай» кухні. Сярод маладых людзей ёсць свайго роду эскейпізм, яны перанасыціліся ўсім ультрасучасным, ім ужо хочацца такога, што яны не адчувалі ў жыцці, не бачылі па тэлевізары. Тую самую жывую гісторыю і жывыя пачуцці, якія можа даць тэатр.

Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ

*Слова краязнаўцы*



**Таццяна ШОДА, галоўны захавальнік фондаў музея Гомельскага палацава-паркавага ансамбля, распавядае пра краязнаўчыя традыцыі ўстановы:**

— Наш музей — адзін з найстарэйшых у Беларусі. Сёлета споўніцца 95 гадоў з дня яго адкрыцця. Для жыхароў Гомеля нешараговай падзеяй стала адкрыццё гісторыка-мастацкага музея ў вежы палаца 7 лістапада 1919 года. Базай для яго стварэння паслужыў нацыяналізаваны палац князёў Паскевічаў, а першымі экспанатамі былі прадметы палацавага ўбрання і разнастайныя калекцыі былых уладальнікаў.

Паводле дарэвалюцыйных вопісаў таго, што мелася ў Гомельскім замку, гаспадары цудоўнага палаца цікавіліся і краязнаўствам. У рарытэтных дакументах зафіксаваны прадметы археалогіі, палеанталогіі, этнаграфіі, сабраныя ў ваколіцах горада. Вядома, што краязнаўца Леў Вінаградаў для свайго выдання «Гомель. Яго мінулае і сучаснасць. 1142 — 1900» выкарыстаў матэрыялы з архіва, які знаходзіўся ў палацы Паскевічаў. У архіве было шмат дакументаў па гісторыі Магілёўскай губерні, у склад якой на правах павятовага горада ўваходзіў Гомель. Яны распавядаюць пра паходжанне назваў населеных пунктаў, іх гаспадароў і нават пра тое, якіх памераў рыба лавілася тады ў Сожы.

Наш музей захаваў традыцыі збіральніцкай дзейнасці. У склад фонду ўваходзяць калекцыі археалогіі, этнаграфіі, нумізматыкі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, фотадакументаў, сучаснага выяўленчага мастацтва і інш. Тысячы прадметаў распавядаюць пра гісторыю гомельскага рэгіёна з найстаражытных часоў і па сёння. Самы вялікі збор — калекцыя археалогіі.

У пачатку 2013 года гамяльчане і госці горада змаглі наведаць выстаўку «Гомельская вобласць. 75 слаўных гадоў!» Фотаздымкі, дакументы, узнагароды сталі асновай экспазіцыі. У нас захоўваецца ордэн Леніна, якім Гомельская вобласць была ўзнагароджана за актыўны ўдзел у партызанскім руху, мужнасць і геразім, праяўленыя ў гады Вялікай Айчыннай вайны, і поспехі, дасягнутыя ва ўзнаўленні і развіцці народнай гаспадаркі.

Мінулы год быў юбілейным у жыцці Гомеля. У 1943 годзе ён быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. І разбураны на 80 працэнтаў горад паўстаў з руін і попелу! Як выглядаў тады Гомель, якія змены адбыліся ў ім за першыя дзесяць гадоў пасля вызвалення, можна было ўбачыць, наведаўшы выстаўку «Вызвалены Гомель і гамяльчане». У тым ліку даведацца пра лёс музея і яго экспанатаў падчас ваеннага ліхалецця. Наша ўстанова аднавіла сваю дзейнасць у 1944 годзе, а музейным прадметам пад інвентарным № 1 стаў партрэт Героя Савецкага Саюза Емяльяна Барыкіна, аднаго з арганізатараў падпольнага і партызанскага руху ў Гомельскай вобласці.

У залах палаца-музея працуе выстаўка «Святыя абліччы Ісуса Хрыста і Багамаці», на якой прадстаўлены абразы з калекцыі музея. У экспазіцыі — праваслаўныя свецкія іконы і народныя, стараверскія і каталіцкія абразы. Незалежна ад таго, дзе знаходзіліся да паступлення ў музей, усе яны характарызуюць духоўнае жыццё нашых продкаў, распавядаюць пра таленавітых майстроў-іканапісцаў.

Сёлета мы плануем разнастайныя выстаўкі, у тым ліку і па краязнаўчай тэматыцы. А нагода для новых экспазіцый — значныя юбілейныя даты: 70-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 100-годдзе з пачатку Першай сусветнай вайны, 95-годдзе нашага музея.

*Музейны ўнікат*

# Сведка Французскай рэвалюцыі

Краязнаўца з Латвіі Мікола Паўловіч зрабіў шмат падарункаў для Музея кнігі і друку, які дзейнічае ў Міёрскай сярэдняй школе № 3. Нядаўна ён зноўку парадаваў нас дасланым пакункам.

Было чаму здзіўляцца! Сярод прэзентаваных рэчаў — французская папяровая купюра 1794 года. Адразу ўзнікае пытанне, як дайшла да нашага часу гэтая сведка эпохі Французскай буржуазнай рэвалюцыі. Банкнота квадратнай формы — невялікая па памерах, коштам 15 солас, называецца «асігнат». Купюра сведчыць пра гіперінфляцыю, якая назіралася ў Францыі падчас рэвалюцыі і грамадзянскай вайны.

Упершыню асігнаты былі выпушчаны ў 1789 годзе. Напачатку іх вартасць складала 97 працэнтаў ад кошту металічных грошай, у 1794-м — ужо 40 працэнтаў, а ў наступным годзе — толькі 0,29. Менавіта ў 1795-м і была праведзена грашовая рэформа, якая вывела з абароту папяровыя грошы.




*Кнігі, якія ўбачылі свет у сучаснай Латвіі.*




*Французскі асігнат.*

З дасланых экспанатаў варта вылучыць кнігу беларускага пісьменніка Уладзіміра Карпава «За годам год» 1973 года выдання з аўтографам аўтара, а таксама бельгійскія маркі 50 — 60-х гадоў мінулага стагоддзя. У пасылцы былі каляндарыкі, паштоўкі.

Чарговы падарунак зрабіў для нашага музея і настаўнік з Краславы (Латвія) Віктар Калніш. Падчас апошняга прыезду ў Міёры ён падараваў музею некалькі падручнікаў па гісторыі старажытнага свету, па новай гісторыі для 9 класа і найноўшай гісторыі для 11-га, якія ўбачылі свет у сучаснай Латвіі. Фонды музея папоўніліся і часопісамі на нямецкай мове 70 — 80-х гадоў XX стагоддзя: «Мелодыі і рытмы», «Кіно») і на рускай — «Спутник», «Советское фото», «Наука и жизнь»).

**Вітольд ЕРМАЛЁНАК**

# Хто згубіў барацінкі?

У розных месцах уласнага кветніка ў вёсцы Станькава, што ў Дзяржынскім раёне, мне пашчасціла знайсці тры пазелянелыя ад часу манеты. На самай вялікай праглядаў чыйсці профіль, на адваротным баку быў бачны абрыс кароны. Дзве другія манеты — аднолькавыя, але захаваліся горш. На адной з іх лёгка чыталася: «солід». З'явілася добрая нагода зрабіць гістарычны экскурс, каб зразумець, што гэта за грошы.

Сітуацыя ў Рэчы Паспалітай у сярэдзіне XVII ст., куды ўваходзілі і беларускія землі, была напружанай. Аказалася пратэрмінаванай пазыка на суму 36 млн. злотых. Краіну засыпалі чужымі грашыма. Новы рэфарматар Тытус Лівіюш Барацiні ўнёс прапанову: з чужынскіх манет, якімі карысталіся пры разліках, выбіць новыя шэлегі ды адначасова вывесці з абароту старыя. Гэтая ідэя знайшла падтрымку. Прадугледжвалася каля 12 працэнтаў срэбра замяніць меднымі манетамі. Скліканая ў 1659 г. у Варшаве меніцкая камісія адобрыла выраб двух мільёнаў шэлегаў — па адным для Літвы і Кароны. Барацiні прадбачыў вялікія прыбыткі для дзяржавы і магчымасць пакрыцця даўгоў Рэчы Паспалітай.

Са срэбных манет сталі біць орты, шастакі, траякі і грошы, вартасць якіх складала 25 — 30 працэнтаў ад намінальнай. У лістападзе 1659 г., калі іх увялі ва ўжытак, насельніцтва прыняло новыя грошы з неахвотаю, нават варожа. Тым больш яны не выправілі фінансавую сітуацыю ў краіне, і неўзабаве наступілі больш драматычныя часы. Чарговы выратавальнік дзяржаўнай казны Андрэй Тымф прапанаваў новую эмісію. І замест срэбных манет з'явілася срэбная залатоўка вартасцю каля 13 даўнейшых грошаў.




*Так выглядаюць барацінкі ў арыгінале. З аднаго боку — абрыс галавы Яна Казіміра ў лаўровым вянку, надпіс IOAN-CAS REX вакол галавы падзелены літарамі T. L. B (ініцыялы Барацiні). На адваротным баку — польскі арол з гербавым шчытом Вазаў на грудзях. Наўкол надпіс: SOLID REGN-POLON і дата.*

Другая Паўночная вайна, празваная ў Польшчы «Шведскім патопам», выклікала ў Рэчы Паспалітай гаспадарчы і манетарны крызіс. Асабліва значным быў доўг дзяржавы войску. Незадаволеныя жаўнеры ўздымалі бунты, агітавалі супраць караля. Тагачасны загадчык кракаўскай меніцы Тытус Барацiні прапанаваў выбіць дробную медзяную манету, якая б мела прымусовую афіцыйную вартасць срэбнага шэлега (1/3 гроша). Сейм пагадзіўся з такім праектам, не зважаючы на тое, што гэта было чарговае ашуканства. Ішла гамонка, што шэлегі зроблены са шкла, а закапаныя ў пясок, ператвараюцца ў шлак. Сапраўды, медзь у шэлегах была вельмі дрэннага гатунку. Незадаволеныя грашовай палітыкай людзі празвалі медныя шэлегі «барацінкамі».

З аднаго фунта (405 грамаў) медзі выбівалі 300 шэлегаў, афіцыйна адпаведных 300 грошам. 57 грошаў атрымлівала дзяржаўная казна, рэшту забіраў загадчык меніцы. Атрымліваючы велізарныя прыбыткі, Барацiні біў манеты па-за лімітам. У 1666 г. прадпрымальнага італьянца абвінавацілі ў ашуканстве і забаранілі яго дзейнасць. Але толькі ў 1668 г. спынілі выраб шэлегаў.

Вялікая грашовая маса і яе невысокая вартасць заахвочвала фальшываманетчыкаў. Хаця злачынцаў чакала страшэннае пакаранне: адсячэнне правай рукі і нават смерць. Але перспектыва атрымання лёгкага і вялікага прыбытку спакушала авантурыстаў. Лічыцца, што прыкладна дзясятая частка эмісіі ў 1,8 мільярда манет была фальшывай.

Барацінкі дапамаглі дзяржаўнай казне пазбавіцца запазычанасці, у той жа час паўплывалі на паглыбленне манетарнага хаосу ў Рэчы Паспалітай. Соліды хадзілі ў абароце да пачатку XVIII ст.

**Алена СТЭЛЬМАХ**

**Даведка «ЛіМа»**

**Тытус Лівіюш Барацiні (1617 — 1682) — навуковец і метролаг, механік і вынаходнік італьянскага паходжання. З 1641 г. знаходзіўся ў Рэчы Паспалітай, з 1658-га быў трымальнікам меніцы каронай. З 1659 па 1666 год выбіваў медныя шэлегі — так званыя барацінкі.**

# Трагедыя Хаджалы

Беларусь рыхтуецца адзначыць Дзень абаронцаў Айчыны. Нягледзячы на тое, што ў сённяшнім Азербайджане гэтае свята адзначаюць у чэрвені, для Ісфандзіяра Бахціяра аглы Вагабзадэ, Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Азербайджанскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, 23 лютага — па-ранейшаму дзень асаблівы. Ён і сёння ўсхвалявана згадвае, як з таварышамі па зброі, сярод якіх было шмат беларусаў, адзначаў гэты дзень у гарачым Афганістане. Засталася агульная гісторыя. Агульная памяць. І — боль… Некалі — вайсковец, сёння — дыпламат, навуковец, літаратар, Ісфандзіяр Вагабзадэ днямі будзе адзначаць іншую, важную ўжо для новай гісторыі яго краіны і народа, дату. «Хаджалінскі генацыд» — так называецца кніга з серыі «Карабахскія рэаліі», выдадзеная пры падтрымцы Цэнтра Гейдара Аліева ў 2013 годзе. Яе перадаў рэдакцыі спадар Пасол. І распавёў пра тое, што значыць дзень 26 лютага для яго народа:




— У гісторыю Азербайджана Хаджалінскі генацыд увайшоў як адна з самых страшных яе старонак. Гэтая падзея, упэўнены, у ліку такіх трагедый стагоддзя, як Хатынь, Хірасіма і Нагасакі, Сангмі... Хаджалы — невялікі азербайджанскі горад, размешчаны ў Нагорна-Карабахскім рэгіёне Азербайджанскай Рэспублікі. З 25 на 26 лютага 1992 года армянскія ўзброеныя фарміраванні пры падтрымцы 366-га мотастралковага палка ўзброеных сіл былога СССР штурмам узялі горад. Жыхары, якія засталіся тут да гэтай трагічнай ночы (каля 2500 чалавек), спрабавалі пакінуць свае дамы да пачатку штурму ў надзеі знайсці прытулак у бліжэйшым азербайджанскім населеным пункце. Але іх надзеям не было наканавана спраўдзіцца. Баевікі знішчалі мірнае насельніцтва, сярод якога было шмат жанчын, немаўлят, старых… Увесь свет абышлі кадры, на якіх людзей спальвалі жыўцом, здымалі скальпы, абезгалоўлівалі. Крывавая бойня, вядомая як Хаджалінская трагедыя, прывяла да гібелі ці паланення тысячы азербайджанцаў. Горад быў сцёрты з зямлі…

І гэта стала адным з самых крывавых злачынстваў у Нагорна-Карабахскім рэгіёне і вакол яго. Злачынствам, якое немагчыма спісаць на законы ваеннага часу, — жыхароў забівалі не ў баях за горад, яны загінулі не падчас ракетных ці артылерыйскіх абстрэлаў. Людзей мэтанакіравана вынішчалі ў той момант, калі яны спрабавалі знайсці паратунак...

26 лютага абвешчана парламентам Азербайджана «Днём генацыду Хаджалы». Штогод у 17 гадзін народ хвілінай маўчання шануе памяць ахвяр Хаджалы. У Баку ўзведзены мемарыял «Покліч маці». Прэзідэнт краіны спадар Ільхам Аліеў з жонкай Мехрыбан ханум Аліевай, афіцыйнымі асобамі ўрада і дзяржавы, дэпутатамі парламента, а таксама прадстаўнікамі грамадскасці штогод наведваюць гэты мемарыяльны комплекс, ускладаюць да яго вянкі і кветкі.

Віцэ-прэзідэнт Фонду Гейдара Аліева Лейла ханум Аліева ініцыiравала кампанію «Справядлівасць да Хаджалы», якая паспяхова праводзіцца ў шматлікіх краінах свету. Мэта гэтай міжнароднай інфармацыйнай і агітацыйнай кампаніі — данесці да сусветнай грамадскасці ўсю праўду пра Хаджалы. Я веру, што беларусы разумеюць і падзяляюць наш боль. Бо тут, у Беларусі, і па сёння памятаюць, што такое вайна, яе страты і памяць.

**Падрыхтавала Іна ЛАЗАРАВА**

**THE SUNDAY TIMES**

«Атакуючыя сілы знішчылі большую частку салдат і добраахвотнікаў, якія абаранялі жанчын і дзяцей. Затым яны ўзялі на прыцэл бежанцаў, запалохаўшы да жаху. Некаторыя з тых, хто выжыў, пасля апісвалі здарэнне наступным чынам: «Менавіта тады і пачалася сабраўдная бойня».

**Брытанскі штотыднёвік «The Sunday Times», 1 сакавіка 1992 года**

# З ваеннай памяці

Лёсы многіх творчых асоб звязаны з Пухавіччынай часоў Вялікай Айчыннай вайны. Непадалёк ад Рудзенска напрыканцы акупацыі быў выдадзены паэтычны зборнік рускага паэта Усевалада Сабліна «Мсціўцы». Праз гэтыя мясціны пралеглі франтавыя сцежкі паэта-песенніка Міхаіла Матусоўскага.

Сярод тых, хто сустрэў вайну ў чэрвені 1941 года на Міншчыне, паблізу чыгуначнай станцыі Пухавічы, — Васіль Аглоблін. А ваяваў ён у складзе 8-й паветрана-дэсантнай брыгады. На жаль, у самога Васіля Дзмітрыевіча пра той час ужо не спытаеш. Ветэран вайны, літаратар пайшоў з жыцця ў 1995-м.

У Вялікую Айчынную пасля года жорсткіх баёў В. Аглоблін патрапіў у палон. Родныя атрымалі паведамленне пра яго гібель. Паперка прыйшла адразу, як яго брыгада аказалася ў акружэнні. На самай справе дэсантнік працягваў знішчаць ворагаў. А ў палон усё-такі патрапіў — 5 мая 1942 года. Пад Вязьмай, у раёне станцыі Дзягілева Смаленскай вобласці. Прайшоў праз канцлагеры і астрогі ў Драгобычы, Хемеры і Хаме. У Дортмундзе працаваў на заводзе. Двойчы спрабаваў уцячы. Перад вызваленнем знаходзіўся ў Бухенвальдзе.

Па вызваленні зноў служыў у войску. Дэмабілізаваўся напрыканцы 1945-га. Праз паўмесяца быў ужо ў родным Чалябінску. Працаваў журналістам у газеце «Копейский рабочий». Некалькі гадоў кіраваў літаратурным аб'яднаннем «Вугалёк». Выступаў у друку з паэтычнымі і празаічнымі творамі. У рукапісе засталіся раман "Падземны гул" і зборнік вершаў "Я па зямлі хадзіў лёгка". Пэўна ж, у гэтых кнігах — і фрагменты з пухавіцкай ваеннай памяці…

Здаецца, даўно наспеў час выдання анталагічнага літаратурна-мастацкага зборніка з тэкстамі пісьменнікаў розных народаў, якія ваявалі ў Беларусі. Калі такі клопат будзе здзейснены, то, відавочна, пачэснае месца ў кнізе зоймуць і тэксты Васіля Аглобліна.

**Мікола ПРЫТЫКА**

*Экскурс у мінулае*

# Кірмашы ў гісторыі мястэчка

Здаўна ў былым мястэчку Краснае (сённяшняя вёска Краснае Маладзечанскага раёна) збіраліся кірмашы, якія маглі доўжыцца тыдзень і болей. Спрыяла зручнае геаграфічнае становішча паселішча. Дакументальныя звесткі пра тутэйшыя кірмашы згадваюцца з XVII ст. У 1634 г. прывілеем польскага караля Уладзіслава IV быў дадзены дазвол на правядзенне кірмашоў пры Васкрасенскай царкве ў Красным Сяле.

Часта падчас кірмашоў арганізоўваліся выстаўкі, на якіх найбольш моцныя гаспадары стараліся збыць свае вырабы ці жывёлу. Сюды з'язджаліся і жыхары з навакольных вёсак. Свой тавар прывозілі гандляры з Гарадка, Ілы, Ракава, Радашковіч. Можна было прадаць жыта яшчэ «на карані». У такія дні вялікія барышы мелі і ўладальнікі крамак, заезнага дома, карчмы. Абавязкова прывозілі свае вырабы ганчары з Радашковіч і Івянца. Яшчэ ў прыцемках расстаўлялі іх на зямлі каля вазоў, заняўшы такім чынам значную частку гандлёвай плошчы. Чаго тут толькі не было: глякі, збаны, міскі розных памераў і форм! Кожны майстар нахвальваў свой тавар, пастукваючы па гліняных вырабах палачкай: якія звінелі! Майстры-бондары дэманстравалі бочкі, бойкі, цэбры ды іншыя тавары з дрэва.

Паўсюдна стаяў гоман: кожны хацеў купіць танней, а гандляр — прадаць даражэй. Пасля ўдалай здзелкі многія кіраваліся ў карчму, здаралася, значная частка выручкі там і заставалася. У Красным прадавалі і коней, у асноўным мясцовай пароды. Цэны на іх значна адрозніваліся. За добрага рабочага каня прасілі 80 рублёў, а за старога ці слабага маглі не даць і 20 рублёў.

Цэны на іншую хатнюю жывёлу таксама залежалі ад мноства прычын. Галоўная з іх — наяўнасць ці адсутнасць прадуктаў. Так, напрыклад, 10 лютага 1911 года «Наша Ніва» (№ 6) паведамляла: «Цана на жывёлу стаіць дарагая: сярэдняя кароўка плаціцца рублёў 60 — 65». У штогодніку «Обзор Виленской губернии за 1894 год» паведамлялася, што некаторыя памешчыкі і багатыя гандляры скуплялі жывёлу, адкормлівалі яе на вінакурных заводах, а затым перапрадавалі ў Пецярбург, Варшаву, Вільню. Таксама маглі збываць на месцы для харчавання войска. Як адзначалася, на мясцовую жывёлу быў «огромный спрос».

Цэны на кірмашах у Красным у 1914 годзе былі наступныя: за 1 пуд жыта прасілі 95 капеек, пшаніцы — 75, бульбы — 30, капусты — 40, яблыкаў — 50. За пуд ялавічыны мусілі заплаціць 5,6 руб., а пуд сала каштаваў 11 руб. Вядро малака — 1,2 руб., а пуд масла I гатунку — 14 руб.

Але гэтыя цэны амаль нічога нам не скажуць, калі не супаставіць іх з заробкамі людзей у той час. Рабочы лесапільнай вытворчасці мог атрымаць у Красным ад 50 капеек да рубля ў дзень, цаглянай — 50 — 85 капеек, мукамольнай — 45 — 60. Вельмі высока ацэньвалася праца інжынера на чыгунцы. Ён атрымліваў сама меней 150 руб. у месяц. Дробныя чыноўнікі дзяржаўных устаноў мелі ад 25 да 30 руб. у месяц. Сярэднегадавая зарплата ўрачоў складала 2400 руб., настаўніка — каля 600. Праўда, далёка не кожны мог знайсці сабе працу. Большая частка месцачкоўцаў кармілася са свайго кавалка зямлі і з таго, што частку свайго ўраджаю маглі прадаць.

Хаця плошча ў Красным за польскім часам ужо не звалася Рынкавай, усё роўна гандаль ішоў менавіта тут. У «Беларускім календары» на 1932 год адзначалася, што ў м. Краснае торг адбываўся ў чацвер штотыднёва. Пазней па нейкіх прычынах яго перанеслі на панядзелак, як і пры цару, і яшчэ быў дадатковы адзін дзень — у пятніцу.

Гандлявалі ў асноўным з вазоў. Патрабавалася, каб на кожным была таблічка з прозвішчам прадаўца. За гэтым пільна сачылі прадстаўнікі мясцовай улады, бо з кожнага воза мелі пэўную плату — звычайна 20 грошаў. Асноўнымі пакупнікамі ў Красным былі жонкі афіцэраў і падафіцэраў, а таксама тыя, хто меў пастаянную працу і не меў уласнай зямлі. Некаторыя больш заможныя гандляры рабілі аптовыя закупкі для перапродажу. Месцачковец Сапоцька набываў яйкі і адвозіў іх у Вільню. Некаторыя месцачкоўцы, асабліва тыя, што жылі непадалёк ад рынкавай плошчы, маглі прынесці кавалак сала, адзін ці два дзясяткі яек і прадаць іх пастаянным пакупнікам. За адзін дзясятак прасілі 20 грошаў, а за кілаграм сала — 2 злотых. Каб зарабіць 2 злотых, трэба было вельмі добра працаваць цэлы дзень.

Майстры прывозілі на базар самаробныя драўляныя цацкі для дзяцей, але такія пакупкі бацькі рабілі вельмі рэдка. Дзецям жа надта хацелася мець тых драўляных кавалёў, якія, калі пацягнеш за палачкі, рухаюцца і куюць. Большыя хлопцы прыходзілі да ўмельцаў і доўга разглядалі цацкі, каб дома зрабіць такія ж. Разгадаўшы хітрыкі хлопцаў, гандляры не давалі ім доўга назіраць за гэтай забавай.

Асобна на спецыяльным пляцы, агароджаным высокім плотам, быў другі базар, дзе гандлявалі жывёлай. Ён знаходзіўся на сучаснай вуліцы Савецкая з правага боку. У пятніцу і панядзелак тут прадавалі коней, кароў, цялят, авечак і свіней. У цэнтры сталі спецыяльныя калкі, да якіх прывязвалі жывёлу. Побач стаялі вазы з сенам, саломай. Бульбу ці збожжа оптам узважвалі на спецыяльных вялікіх вагах. Гаспадары прывозілі таксама бароны, плугі, конскую збрую.

Пасля прыходу Чырвонай Арміі ў 1939 годзе абодва кірмашы непрацяглы час яшчэ працавалі. Потым іх закрылі. Пры нямецкай акупацыі нейкі час людзі яшчэ збіраліся на старым месцы, каб што-небудзь прадаць, абмяняць ці набыць, але хутка немцы гэты кірмаш таксама забаранілі — баяліся партызан.

Пасля вайны кірмаш на цэнтральнай плошчы не аднавіўся. Для гандлю выдзелілі пляцоўку на вуліцы Савецкай. Можна было купіць харчовыя тавары, адзенне. Першыя з ваеннай формы рэчы абменьвалі на розныя прадукты. Гандлявалі і скацінай. У той час зноў з'явіліся перакупшчыкі-спекулянты, якія, набыўшы цялят, курэй, яйкі, значна даражэй перапрадавалі іх у Мінску. Як і раней, на кірмаш у Краснае прыязджалі людзі з іншых вёсак і мястэчак.

Але паступова жыццё наладжвалася, з'явіліся тавары ў крамах, таму кірмаш з кожным годам станавіўся ўсё меншым. У 70-я гады мінулага стагоддзя на пляцы зрабілі спецыяльныя прылаўкі і крыты навес, але гэта ўжо не дапамагло выратаваць традыцыю старажытнага мястэчка.

**Сяргей СТАРЫКЕВІЧ**

# Маэстра запрашае!



*Уладзімір Співакоў.*

**III Міжнародны музычны фестываль «Уладзімір Співакоў запрашае» праходзіць у Беларусі з 18 па 28 лютага. На працягу 10 гадоў гэта яркае і ўрачыстае мерапрыемства з велізарным поспехам арганізоўваецца ў Маскве, а таксама ў французскім горадзе Кальмар. У розны час у ім бралі ўдзел такія зоркі сусветнай сцэны, як піяніст Дзяніс Мацуеў, англійскі тэнар Іен Бострыдж, салісты Рымскай оперы Даніэла Дэсі і Фабія Арміліята ды іншыя. У Беларусі імянны фестываль маэстра Співакова ладзіцца з 2010 года, прыхільнікі класічнага мастацтва збіраюцца на канцэрты ў Мінску, Гомелі, Магілёве і Віцебску.**

— Мяне заўсёды цешыць шчырасць і сардэчнасць нашых рэгулярных сустрэч падчас фэсту, які стаў неад'емнай часткай як майго жыцця, так і, хочацца верыць, культурнага жыцця Беларусі, — прызнаецца маэстра Уладзімір Співакоў. — Праграмы канцэртаў уключаюць у сябе ўсю разнастайнасць імёнаў, стыляў і жанраў, якія мне ўдаецца сабраць з перыядычнасцю раз на два гады. На фестывальных канцэртах вы адкрыеце для сябе новыя імёны і атрымаеце асалоду ад сустрэч з сусветна вядомымі музыкантамі!

Міжнародны фестываль «Уладзімір Співакоў запрашае» з 2010 года праводзіцца пры ідэйнай і фінансавай падтрымцы Альфа-Банка (Беларусь), які традыцыйна выступае ў якасці генеральнага партнёра свята.

— Фэст нясе ў сабе магутны зарад аптымізму. Мы вельмі рады садзейнічаць распаўсюджванню сапраўдных каштоўнасцей не толькі ў элітарным коле, але і ў шырокім асяроддзі зацікаўленых і проста адукаваных людзей, — адзначыў старшыня праўлення Альфа-Банка ў Беларусі Ігар Кацібнікаў. — Асабліва цешыць тое, што свята пашырае свае межы: у гэтым годзе да фестывалю далучыўся Віцебск, а ў праграму ўключаны ўнікальны балетны праект. Мы ўпэўнены, што ўсе канцэрты пройдуць з аншлагамі, як і ў папярэднія гады.

Прадзюсар і арганізатар фестывалю Максім Берын адзначае: «Мы прыклалі шмат намаганняў, каб з 18 па 28 лютага гледачы маглі атрымаць асалоду ад шэдэўраў вялікай класікі ў выкананні лепшых артыстаў свету і, несумненна, самога маэстра Уладзіміра Співакова. На іх выступленні ў іншых краінах немагчыма дастаць квіткі — беларусам выпаў унікальны шанц! Прыемна адзначыць, што праграма фестывалю становіцца ўсё больш насычанай і разнастайнай. Кожны канцэрт непаўторны, любы слухач знойдзе для сябе нешта па душы і зможа атрымаць асалоду ад прыгожага класічнага мастацтва».

Урачыстае адкрыццё фестывалю адбылося 18 лютага на сцэне сталічнага Палаца Рэспублікі, дзе ўпершыню разам выступілі два маэстра — Дзмітрый Хварастоўскі і Уладзімір Співакоў — у суправаджэнні Нацыянальнага філарманічнага аркестра Расіі.

Славуты выканаўца, Народны артыст Расіі Д. Хварастоўскі выступаў на такіх пляцоўках, як *Wigmore Hall* у Лондане, *Queen's Hall* у Эдынбургу, *Carnegie Hall* у Нью-Ёрку, *Teatro alla Scala* ў Мілане, оперны тэатр *Liceo* ў Барселоне і многіх іншых. Акрамя таго, яго сольныя канцэрты праходзілі ў Сеуле, Осла, Стамбуле, Ерусаліме, а таксама ў Аўстраліі. У праграме адкрыцця III Міжнароднага фестывалю «Уладзімір Співакоў запрашае» ў выкананні Дзмітрыя Хварастоўскага прагучалі кампазіцыі Рыхарда Вагнера, Антона Рубінштэйна, Джузепе Вердзі.

У межах фестывалю 19 лютага ў Гомельскай абласной філармоніі і 20 — у Магілёўскай абласной філармоніі была прадстаўлена праграма «Час Чапліна». Упершыню гэты праект быў паказаны ў Маскоўскім міжнародным Доме музыкі і выклікаў вялікую цікавасць не толькі ў прыхільнікаў класікі, але і ў аматараў кінамастацтва: акрамя ігры аркестра на вялікім экране гледачам трансліраваўся фільм. Госці вечара займелі магчымасць адчуць атмасферу нямога кіно 30-х гадоў мінулага стагоддзя. Адзін з лепшых сімфанічных аркестраў пад кіраўніцтвам маэстра Співакова выконваў музыку Ч. Чапліна да несмяротнай стужкі «Агні вялікага горада» па партытуры, рэканструяванай Цімаці Брокам у 2004 годзе.

Дзве скрыпкі, віяланчэль, клавесін і арыі на нямецкай мове. Менавіта так выконваліся імшы і кантаты вялікага Іагана Себасцьяна Баха ў XVIII стагоддзі. Па такім самым узоры сёння ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі выдатныя музыканты пад кіраўніцтвам Уладзіміра Співакова выканаюць музычную праграму «Час Баха». Канцэрт адметны тым, што сам маэстра Співакоў саліруе на скрыпцы. Як скрыпач ён прайшоў бліскучую школу ў знакамітага педагога, прафесара Маскоўскай кансерваторыі Юрыя Янкялевіча. Не менш уплыў аказаў на маэстра яго другі настаўнік і кумір — найвялікшы скрыпач XX стагоддзя Давід Ойстрах. Праграму «Час Баха» У. Співакоў упершыню выканаў на фестывалі ў Кальмары, прысвечаным памяці Святаслава Рыхтэра. На канцэрце ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі будуць саліраваць Анастасія Белукова (сапрана), Цімур Пірвердзіеў (скрыпка), Зоя Аболіц (клавесін), Дзмітрый Пракоф'еў (віяланчэль).

Аркадзя Валадося называюць «геніем фартэпіяна». Бязмежная віртуознасць разам з унікальным пачуццём рытму, колеру і паэзіі зрабілі яго ідэальным «апавядальнікам» рамантычных музычных казак. Заўтра ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбудзецца канцэрт А. Валадося. Крытыкі адзінадушныя ў ацэнцы ігры музыканта: «Яго тэхніка не выклікае адчування феерычнага майстэрства або бліскучага штукарства — куды больш яна падобная да нейкай прыроднай, натуральнай асаблівасці арганізма. Пасажы ўсіх ранжыраў ён можа сыграць ці не хутчэй, чым гэта наогул можна зрабіць на раялі. Прычым падчас выканання піяніст нават не зварухнецца, брывом не павядзе». Канцэрт Аркадзя Валадося адбудзецца ў суправаджэнні Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам дырыжора, прадаўжальніка лепшых традыцый рускай і савецкай дырыжорскай школы Аркадзя Берына.

Пасля трыумфальнага поспеху першага балетнага гала ў Мінску і Віцебску «Зоркі сусветнага балета» вяртаюцца ў межах III Міжнароднага фестывалю «Уладзімір Співакоў запрашае». 25 лютага ў сталічным Палацы Рэспублікі, 26 лютага ў канцэртнай зале «Віцебск» выступяць вядучыя салісты тэатраў балета свету. Гэтым разам арганізатары вырашылі зрабіць акцэнт на традыцыях каралеўскага балета Вялікабрытаніі і шырокім спектры балетных школ Германіі. Вядучыя танцоры Каралеўскага балета Лондана і Бірмінгема прадставяць стылі харэаграфіі сэра Кенэта Макмілана і Пітэра Райта. Салісты лепшых танцавальных кампаній Берліна, Мюнхена, Штутгарта прапануюць нумары славутых харэографаў сучаснасці, у ліку якіх Уільям Форсайт, Ралан Пеціт, Маўра Біганзеці. Вялікім гонарам з'яўляецца ўдзел у гэтым балетным гала піянера рускай сучаснай харэаграфіі з Санкт-Пецярбурга Барыса Эйфмана. Праграма канцэртаў будзе складацца з двух аддзяленняў. У першым танцоры прадставяць класічную балетную школу і пакажуць нумары з сусветна вядомых пастановак. У другой часткі больш увагі будзе нададзена сучаснай харэаграфіі. Як правіла, падобныя выступленні — вялікая рэдкасць. Публіка атрымлівае ўнікальную магчымасць на працягу аднаго вечара ўбачыць праслаўленых майстроў танца, дзеля сустрэчы з якімі давялося б аб'ездзіць паўсвета.

Урачыстае закрыццё Міжнароднага фестывалю «Уладзімір Співакоў запрашае» адбудзецца 28 лютага ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі канцэртам з удзелам зорак опернай сцэны Марыінскага і Вялікага тэатраў Расіі Ганны Аглатавай (сапрана), Васіля Гарэла (барытон) і Алега Кулька (цэнар). Найбольш папулярныя арыі Дж. Вердзі, Дж. Расіні будуць выконвацца ў суправаджэнні Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам знакамітага дырыжора Вага Папяна.

**Таццяна ШЫМУК**



*Дзмітрый Хварастоўскі.*

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-97-09
крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-97-09
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2558.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 20.02.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 630.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686